E-mail: tbm@lingvo.minsk.by

# Новы Час

№ 1(1) ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА 28 ЖНІЎНЯ 2002 ГОДА

## Пазіцыя НЧ

### *Сукупна зробім болей і лепш*

**Алена АНІСІМ,**
галоўны рэдактар
«Новага Часу»



Шаноўныя чытачы!

За апошні дзесятак гадоў шмат чаго змянілася ў нашым жыцці. Мы былі сведкамі разбурэння старых міфаў, стэрэатыпаў, узнікнення і развіцця новых тэхналогій. На нашых вачах нараджаюцца іншыя, непрымальныя раней адносіны паміж людзьмі, новы светапогляд, новая ідэалогія.

Увесь свет імкліва развіваецца. Куды ён рухаецца? Ці варта бегчы за ім услед? І ці ўдасца гэтага не рабіць? Як знайсці сябе ў неабдымным моры прапаноў і магчымасцей? Як не згубіцца ў гэтым кругавароце падзей, бясконцых катаклізмаў, калі здаецца, што рушыцца ўвесь свет? Як захаваць той стрыжань (і які менавіта?), што дапаможа адчуваць сябе патрэбным тут і зараз? Пытанняў новага часу куды больш, чым гатовых адказаў на іх. І ўсё ж мы спадзяемся, што вас прыцягвае новае, неспазнанае, што вам падабаецца час ад часу штосьці змяняць у сваім жыцці, падабаецца адкрываць прыемна-нечаканае ў да болю знаёмых рэчах, узаемаадносінах. А можа вы проста любіце жыццё, сваю працу, сваіх блізкіх, шмат што прымаеце такім, як ёсць.

Мы будзем рады, калі вы падзеліцеся з намі сваімі сакрэтамі, як жыць у згодзе з самім сабой у наш няпросты час. І мы здолеем разам асэнсаваць сутнасць новага часу, адшукаць шляхі вырашэння праблемных сітуацый і навучымся радавацца і цаніць вялікі Божы дар, імя якому – Жыццё.

# Ад званка да званка




**1 верасня – усенароднае свята. Дзеці імкнуцца ў школу, каб пачаць дарослае жыццё, а дарослыя ўзгадваюць свае школьныя гады. Набываць веды - гэта шчасце, але яно матэрыяльна абумоўленае**

Працяг тэмы на стар.5

## *Свята Мінска*

Мінгарвыканкам зацвердзіў праграму свята горада «Чароўны Мінск», прысвечанага 935-годдзю беларускай сталіцы. Свята пройдзе 14–15 верасня. На два дні пешаходнымі стануць праспекты Францішка Скарыны і Машэрава і ўсе прылеглыя да іх вуліцы. Усе яны на час гарадскога свята будуць перайменаваныя ў адпаведнасці з мерапрыемствамі, якія будуць на іх праходзіць. Упершыню ў Мінску пройдуць парад тралейбусаў (рэтра і сучасных) і парады паветраных шароў «Ранішняе сонца» і «Вячэрняе ззянне» з паказам паветраных шароў з больш чым 10 краін свету. Канцэртна-забаўляльныя праграмы з удзелам беларускіх выканаўцаў пройдуць на пяці сцэнічных пляцоўках у цэнтры горада, а таксама ў кожным раёне. У іх прымуць удзел беларускія і замежныя папулярныя выканаўцы і музычныя калектывы.

Адбудуцца рыцарскія турніры і спектакль пад адкрытым небам «Бітва на Нямізе», літаратурныя чытанні, спаборніцтвы па нетрадыцыйных відах спорту, парусныя рэгаты, кірмашы і іншыя святочныя мерапрыемствы. Прыкладна 95% сродкаў на правядзенне свята выдзяляе гарадскі бюджэт, астатнія, як чакаецца, паступяць ад спонсараў. Пралогам да свята стане ўрачыстае адкрыццё – закладка сімвалічнага каменя на месцы будаўніцтва Гарадской Ратушы.

**А.К.**

## Юбілей Ігната Дамейкі

Улiпені гэтага года беларуская грамадскасць адзначала 200-я ўгодкі з дня нараджэння выбітнага сына Беларусі Ігната Дамейкі. Урачыстасці адбываліся і ў Чылі, дзе наш зямляк у пазамінулым стагоддзі заснаваў універсітэт, зрабіў важныя геаграфічныя адкрыцці і дзе ён ўганараваны званнем нацыянальнага героя. У Мінску прадстаўнікі грамадскай ініцыятывы па ўшанаванні памяці Ігната Дамейкі, якія сабраліся з ініцыятывы ТБМ, прынялі рашэнне прапанаваць Мінскаму гарадскому савету прысвоіць імя Ігната Дамейкі адной з вуліц ці праспектаў беларускай сталіцы, бібліятэцы, каледжу, ліцэю, Беларускаму нацыянальнаму тэхналагічнаму універсітэту. Улічваючы навуковыя заслугі Дамейкі, прапанавана геаграфічнаму і біялагічнаму факультэтам БДУ заснаваць стыпендыю Ігната Дамейкі, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі - заснаваць прэмію, медаль і дыплом імя Ігната Дамейкі. Удзельнікі ўрачыстага сходу звярнуліся таксама ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь з прапановай паставіць у Мінску помнік Ігнату Дамейку, дзеля чаго выдзеліць на забеспячэнне конкурсу і будаўніцтва неабходнае фінансаванне.

**Сяргей КРУЧКОЎ**




## У нумары





**Тэлепраграма будзе друкавацца пры сталым выхадзе газеты**

Ніл ГІЛЕВІЧ,
Народны паэт Беларусі

# Іншага шляху няма



Сёння ўжо можна сказаць зусім пэўна: за апошняе дзесяцігоддзе наша грамадства маральна і духоўна моцна дэградзіравала. Гэты гібельны працэс працягвае небяспечнымі тэмпамі ісці далей – у глыб чалавечай душы, і не бачна, каб нейкія разумныя, здаровыя, жыццяносныя сілы імкнуліся яго ходу аслабіць, стрымаць, запыніць – дзеля выратавання гэтае самае душы чалавечай. Мы пажынаем горкія плады нямудрай, глухой і сляпой нацыянальна-культурнай палітыкі, якая ажыццяўлялася ў былым СССР і з яго распадам не скончылася. Вось толькі адзін-два штрышкі да абрысоўкі сітуацыі, да разумення таго, чаму ў нас так далёка зайшло.

Нядаўна (а менавіта 9 жніўня) маскоўскае радыё «Россия» паведаміла: амерыканскія вучоныя зрабілі выснову (пасля доўгага вывучэння і даследавання), што жорсткія фільмы-баевікі – з забойствамі, гвалтамі і ўсякім іншым гадствам – вельмі дрэнна ўплываюць на выхаванне дзяцей. Малышы, якія пастаянна глядзяць такія фільмы, робяцца агрэсіўнымі, задзірамі і забіякамі; апрача таго, у іх развіваецца недаверлівасць, схільнасць чакаць ад кожнага ашуканства, крыўду, зло. Значыць, у Амерыцы, якая і пастаўляе нам «фільмы жахаў», зроблена такое «адкрыццё». Як у гэтакім разе кажуць, няведама, што рабіць: ці плакаць, ці смяяцца. Яшчэ 30, а можа і 40 гадоў назад у савецкім друку патокам ішлі артыкулы пісьменнікаў, педагогаў, журналістаў – з крыкам-зваротам да Урада, да тых, у чыіх руках тэлебачанне і кінапракат: «Спыніце! Спыніце гэту прапаганду зверства! Інакшай нам ніколі не выхаваць у дзецях дабрыню і чалавечнасць». І што ж? Спынілі? Не. Наадварот – далі яшчэ больш шырокую дарогу. Растапталі ўсю і ўсякую педагогіку, зруйнавалі асновы выхавання чалавека ў любові – і робім выгляд, што нічога не здарылася.

Яшчэ нядаўна думалася, што шмат у гэтым плане добрага дзяржава можа зрабіць, апіраючыся на храм Божы. Але вось у нас на вачах улады руйнуюць храм – руйнуюць праваслаўную хрысціянскую царкву! Толькі за тое, што яна хацела быць царквой беларускай, хацела найцесным і найлюбоўным чынам зніталавацца з душой беларускага народа. Ілюзіі рухнулі. Не зможа такая дзяржава адрадзіць высокую народную мараль, духоўнасць і культуру. Не зможа, бо – ігнаруе відочную і бясспрэчную ісціну, што здаровае жыццё на Беларусі можа развівацца толькі ў прыродна-беларускіх, нацыянальных формах. Як і ўсюды ў свеце.

Сёння ўжо можна гэтаксама пэўна сказаць: наша грамадства – жыхары-людзі зямлі беларускай так і не ўбачылі і не зразумелі, дзе ён, той шлях, які вядзе да выратавання, ідучы якім можна засцерагчыся ад канчатковай пагібелі. А гэты шлях быў абвешчаны яшчэ вясной 1918-га і затым нанова – на пачатку 90-х, – шлях дзяржаўна-палітычнага і нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі, шлях будавання і ўмацавання сваёй уласнай незалежнай дэмакратычнай дзяржавы. Іншага шляху няма. Усё іншае, што нам прапануецца як зарука прагрэсу і росквіту, – хлусня і ашуканства. Усё іншае – ад д'ябла, а не ад Бога.

Няўжо так і не зразумеем гэтага, людзі?

Алег ТРУСАЎ,
Старшыня Грамадскага аб'яднання «ТБМ імя Францішка Скарыны»

# Удачы, «Новы Час»!



Паважаны чытач! Перад табою новае беларускае выданне, новага XXI стагоддзя. Гэта прамое сведчанне таго, што насуперак усім «прарокам» і песімістам беларуская мова жыве і будзе жыць, у тым ліку на старонках нашага выдання.

Наогул, 2002 год – гэта год-прадвеснік новага часу, часу сталення і канчатковага фарміравання новай, ужо не савецкай беларускай нацыі ва ўмовах доўгачаканай (на працягу амаль 200 гадоў) незалежнасці.

І менавіта сёння, пасля 11 гадоў незалежнасці, пастулова адміраe, адыходзіць у нябыт усё былое, савецкае, камуністычнае, тыя міфы, якімі жылі пакаленні паняволеных тутэйшых людзей.

Першымі адышлі ў нябыт гісторыі шмат якія савецкія часопісы і газеты. Гвалтам загнаныя ў літаратурны «саўгас», яны неўзабаве сканаюць і знікнуць з кніжных паліцаў. Крыху пазней канчаткова здалі свае пазіцыі былыя савецкія прафсаюзы, якіх з такой асалодай разбураюць сучасныя ўлады, пілячы з незразумелай асалодай адзін з самых моцных сукоў, на якім яшчэ доўга можна было спакойна сядзець.

Памерла газета савецкай моладзі «Чырвоная змена» і хутка сканае «Знамя юности». Нават Павел Якубовіч на шыкоўным юбілеі сваёй «вертыкальнай» газеты сказаў, што хоча змяніць яе назву, бо «Советская Белоруссия» ўжо не гучыць нават у ветэранскім асяроддзі. Пачынае «даваць дуба» і віртуальная «саюзная дзяржава», бо сяброўства сяброўствам, а «труба» асабліва з нафтай ці газам у кожнага свая. І гэта таксама прыкмета новага часу.

Зміцярнелі, скурчыліся, як славутая «шагрэневая» скура, і ўсе сучасныя партыі, бо зараз надыходзіць час яднання ўсіх дэмакратычных людзей у новую арганізацыю – сапраўдны шматтысячны беларускі народны рух, які, як калісьці БНФ, зможа вывесці на вуліцы і плошчы нашых гарадоў і мястэчак тысячы тых, хто хоча «людзьмі звацца». Яны і ёсць будучыя чытачы нашай новай газеты. Дык, добры час, спадарыні і спадары, заснавальнікі і выдаўцы «Новага Часу»!

Будзем разам крочыць насустрач новай эпосе!

## Чырвоная кніга

# Заказнік пад «Венерын чаравічак»



Фота У. Шланак

У Брэсцкай вобласці адкрыта яшчэ адно месца, дзе расце занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі «венерын чаравічак» (Cyrpripedium calceolus). У будучым тут магчыма стварэнне заказніка.

Размова ідзе аб лясным масіве ля вёскі Гаравіца Драгічынскага раёна. Яго выявіла навуковая экспедыцыя з членаў грамадскага аб'яднання «Зялёны край» пад кіраўніцтвам кандыдата біялагічных навук, дацэнта Мікалая Міхальчука, якая працавала тут гэтым летам.

Згодна з вынікамі даследаванняў, сёння ў Брэсцкай вобласці растуць 25–30 працэнтаў еўрапейскай папуляцыі гэтай прыгожай і рэдкай расліны. Яна расце, у асноўным, на поўдні Кобрынскага і Маларыцкага раёнаў.

Дзякуючы навуковым даследаванням арганізацыі «Зялёны край», за апошнія гады ў Брэсцкай вобласці быў створаны шэраг заказнікаў рэспубліканскага значэння – «Лукава» (Маларыцкі раён), «Тырвовічы» (Пінскі раён), «Буслаў» (Бярозаўскі-Пружанскі), а таксама мясцовага значэння – «Дзівін – Вялікі Лес» (Кобрынскі раён). Паводле слоў М. Міхальчука, цяпер ідзе праца над стварэннем заказніка ва ўрочышчы Гарохавішча (Брэсцкі раён) і батанічнага помніка з 10 лясных астраўкоў на тэрыторыі саўгаса «Днепрабугскі» ў Кобрынскім раёне. У будучым магчыма стварэнне заказніка ў Драгічынскім раёне.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Суверэнітэт

# *Прэзідэнт Расіі плануе падсілкавацца Беларуссю*

Пераважная большасць беларусаў не ўспрымаюць варыянта паглынання сваёй краіны Расійскай Федэрацыяй, як тое непаважна да суседняй краіны плануе Уладзімір Пуцін.

Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі **Аляксандр Вайтовіч** лічыць, што *«пры такой мадэлі Беларусь знікне з палітычнай карты свету як суб'ект міжнароднай дзейнасці, як член ААН. Гэта зусім не тое нават, што было ў Савецкім Саюзе, дзе і БССР і РСФСР былі раўнапраўныя саюзныя рэспублікі. Пасля другой сусветнай вайны мы не знойдзем прыкладу, калі нейкая краіна добраахвотна адмаўлялася б ад свайго суверэнітэту»*.

Беларуская дзяржава не можа знікнуць, нават калі за гэта выкажацца простая большасць грамадзян. Так выказаўся старшыня Канстытуцыйнага суда Беларусі **Рыгор Васілевіч**. Ён нагадаў, што па Выбарчыму Кодэксу на рэспубліканскі рэферэндум нельга выносіць пытанні, якія могуць выклікаць парушэнне тэрытарыяльнай цэласнасці краіны. Старшыня Канстытуцыйнага суда падкрэсліў, што дзеючая Канстытуцыя Беларусі - *«гэта Канстытуцыя незалежнай дзяржавы з уласцівымі ёй усімі прыкметамі: уласнай тэрыторыяй, органамі ўлады, прававой сістэмай і г.д.». «Крыніцай улады з'яўляецца народ, які ў прынцыпе ўжо вызначыў свой лёс - жыць ва ўласнай дзяржаве»*.

Думка **Станіслава Шушкевіча**, экс-старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання:

«Заява Пуціна - гэта прамая знявага маёй краіны. Ён пацвердзіў, што *«Расія імкнецца быць каланіяльнай дзяржавай і збіраецца паглынуць Беларусь. Гэта абсурд. Мы самастойная дзяржава і павінны ёю заставацца. І не трэба гаварыць, што менавіта Расія сёння нам ужо моцна дапамагае. Па-мойму, відавочна: калі нам падаюць па адных пазіцыях, то адбіраюць па іншых»*.

Меркаванне **Вячаслава Ніканава**, прэзідэнта расійскага фонду «Палітыка», прыхільніка паглынання Беларусі Расіяй: *«Аляксандр Лукашэнка ў канчатковым выніку можа згадзіцца на аб'яднанне яго краіны з Расіяй. Ён можа пайсці на ўступкі, але для гэтага яму трэба бачыць сваё месца ў структуры ўлады будучай дзяржавы»*.

**Па матэрыялах прэсы**

**Форум НЧ**

# Стары цёс на новы дамок

***Гэты ліст спадарыні Марылі Вайцюшкевіч выбраны рэдакцыяй з мноства тых, што прыходзяць у сядзібу ТБМ ад людзей, занепакоеных станам роднай мовы і роднай культуры наогул. Аўтар гэтага ліста выказвае меркаванні, якія не ўсе могуць падзяляць, бо яны не зусім звычныя для ТБМаўскага асяроддзя. Таму рэдакцыя вырашыла надрукаваць ліст у якасці запрашэння на дыскусію. У рэшце рэшт пытанне аб тым – зыбкі ці цвёрды грунт, на якім будуюцца нашы нацыянальныя адчуванні і перспектывы, – магчыма, адно з галоўных. Бо добры плён можа быць толькі тады, калі праца вядзецца на ўрадлівай глебе. А вось якая яна ў нас? Ці не памыляемся мы адносна яе ўрадлівасці?***

Паважанае спадарства! За сваё жыццё я многа перажывала за цяжкі стан нашай мовы ці лепш сказаць, за стан беларушчыны на Беларусі. І шмат іншых людзей, я разумею, перажывалі не менш, а хто і болей, не кажучы ўжо пра тых, хто ахвяраваў для радзімы не толькі працай. Цяпер кожны назірае драматычную сітуацыю з мовай і культурай штодзённа. Некаторыя не бяруць тая «непрыемнасці» да галавы, бо лічаць, што не ад іх залежыць выпраўленне.

А ёсць людзі, якім гэта надта балюча, бо для іх гэтакая карціна як страта роднай хаты, якая на вачах ідзе з дымам, а магла б стаяць і было б у ёй шчасце. А як страчаная, дык трэба прасіцца да кагосьці пастаяльцам, жыць з міласці ў куце культуры. Вось я з такіх апошніх людзей, бо так выхоўвалася і сама так выхоўвала сваіх трох дачок. Адна з іх і цяпер мая аднадумца, а дзве старэйшыя сталі абыякавыя і да мовы, і да захавання беларускай культуры. Кажуць – няма карысці пра гэта дбаць, калі дбаюць з кожных ста, можа, пяць ці сем беларусаў, а трэба ісці ў Еўропу. Ды мне і мільёнам такіх, як я, няма там месца ды і не хочацца.

Як самы цікавы час я ўзгадваю прамежак 1985-1993 гадоў, калі проста ў паветры адчувалася, як тады казалі, новае беларускае адраджэнне. Людзі, якія ўдзельнічалі тады ў культурных мерапрыемствах, у абмеркаваннях праблемаў краіны, якія прыходзілі на мітынгі і дэманстрацыі, яны неяк і знешне былі іншыя, чым зараз. У іх вочы былі лепшыя – больш там было шчырасці, прывабнасці, добрай энергіі. І быў прывабны сэнс у адраджэнні сваіх нацыянальных сімвалаў, і ў веданні роднай даўніны, і здавалася, што мы пачалі рух наперад, што нашае жыццё выйшла з нуднай каляіны. А потым усё загасла. Усе ведаюць як і калі. І таму тут няма пра што гаварыць...

Але вось што мяне ў звязку з гэтым відочным загасаннем займае. Я думаю, што не можа так быць, каб у лепшых, чым сёння, варунках зноў адраджэнне пачалося гэтак жа, як пачыналася пятнаццаць гадоў таму. Не можа быць, што зноў будуць хадзіць на сходы, шчыра спяваць «Пагоню», зацікаўлена чытаць пра сваіх князёў, услаўляць часы ВКЛ і тую даўнюю Беларусь. Ці можа запаліцца гэтакімі пачуццямі новае пакаленне, і калі гэта можа адбыцца. Бо мы, калі можна гэтак акрэсліць, рыхтаваліся ў іншых культурных умовах – пры моцным ўціску савецкага ладу, і людзі тады былі больш аднадумцамі, бо мелі мала выбару, і тое няшматлікае, што ўвасабляла свабоду думкі, нашы мары, было для ўсіх адно. А сёння ва ўмовах рынку ствараецца, як раней казалі, «новая агульнасць» ужо не савецкіх, а разрозненых людзей, арыентаваных кожны на ўласны шлях, недаверлівых, можа і справядліва, да высокіх словаў, бо многія ранейшыя высокія словы абясцэніліся.

Ці ўсё ж адзіным, на чым можа вырасць наступнае дзейнае пакаленне людзей, якія шануюць беларушчыну, застаецца культура ўвогуле і ў прыватнасці высокая беларуская культура, створаная ўжо ў наш час (у мінулым стагоддзі). Ці правільна зноў і зноў запрашаць людзей хадзіць да руінаў палацаў, замкаў, сядзіб, адшукваць страчаную спадчыну і марыць аб яе вяртанні, зайздросціць суседзям, якія гэта ў прынцыпе вырашылі і будуюць будучыню, а не вырошчваюць сваю настальгію, спадзеючыся, што ад яе пойдзе дзяржаўная ідэя, пачуццё самапавагі і нацыянальнай годнасці.

Я не магу сама знайсці для сябе адказ, калі пра гэта разважаю. Аднаго дня думаю, што без гістарычнай настальгіі нічога нельга зрабіць, а ў іншы дзень думаю – не, нічога гэта не дасць, а трэба вырашаць праз палітыку, уладу, але ў партыі мала хто любіць запісвацца, ды і ў якія з іх верыць? Мне не хапае выказванняў розных людзей менавіта на гэтыя тэмы. Было б добра, каб ТБМ арганізаваў нейкія канферэнцыі, сустрэчы сваіх сяброў ды запрашаў на іх спецыялістаў, хто такімі праблемамі займаецца, каб было магчыма абменьвацца думкамі, выпрацаваць правільныя ацэнкі. Мо, калі будзем рабіць гэта разам, нам адкрыецца нейкая няўбачная сёння новая перспектыва. Мы ўсе многа гаворым пра будаўніцтва новай Беларусі, Беларусі XXI стагоддзя, а мне здаецца, што мы знойку намерваемся будаваць са старога цёсу – ВКЛ, князі, спадчына першадрукароў. Пры ўсёй павазе да іх скажу гэтак: яны жылі сваё жыццё, а мы жывем сваё, і нам патрэбны план, а не стары ўзор, які сваё праіснаваў і сышоў у нябыт.

**Марыля ВАЙЦЮШКЕВІЧ,**
*Маладзечна*

**Наш месячнік**

## *«Размаўляем па-беларуску»*

**Бальшыня з нас ведае родную мову – тытульную мову нашай дзяржавы. Але пра нас гавораць: беларус – гэта нямы, гэта той, хто баіцца размаўляць на сваёй роднай мове.**

**Мы прапаноўваем правесці месячнік беларускай мовы накшталт месячнікаў бяспекі дарожнага руху. Тым болей, што на пачатку верасня ў старажытным Міры пройдзе святкаванне Дня беларускай пісьменнасці.**

**Не трэба выходзіць на дэманстрацыі і падаваць заяўкі на пікеты. Кожны сам можа стаць узорам абаронцы мовы для родных, блізкіх, сяброў. Павітайся па-беларуску, скажы калегу ці суседу ранкам «Дабрыдзень», увечары па-беларуску развітайся, скажы «Дабранач». Прачытай сваім дзіцяці ў роднай мове добры вершык. Напішы знаёмаму паштоўку па-беларуску. Ці пры аплаце камунальных рахункаў запоўні па-беларуску квіток. Падзякуй чалавеку ў роднай мове.**

**Калі гавораць па-беларуску трое, то далучыцца і чацвёрты, які не меў смеласці пачаць такую гаворку сам.**

**Можа, мы зробім так, што беларуская гаворка стане звычкай. Ніхто апроч нас гэта рабіць не будзе.**

**Адзнач Дзень беларускай пісьменнасці беларускім словам. Табе ёсць чым ганарыцца. Гэта на тваёй мове, мове тваіх дзядоў размаўляў і друкаваў кнігі Францішак Скарына, а ён быў больш разумны, чым мы.**

**Памятай пра лепшых. Будзь сам сабой. Будзь першы.**

**Таварыства беларускай мовы**
**Наш адрас: *220005, Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон: 284-85-11***

**Ініцыятывы**

# *Беларускае тэлебачанне: стан і перспектывы*

Ад пачатку тэлевізійнай эры тэлебачанне Беларусі фармавалася наднацыянальнымі органамі СССР і, безумоўна, развівалася як рупар савецкай ідэалогіі.

Фактычна светапогляд сучасных грамадзян Беларусі сфармаваны не ўласна беларускім, а савецкім і расійскім светаадчуваннем. У масавай свядомасці створаны вобраз беларуса як вобраз малаадукаванага вясковага чалавека, які гаворыць на негарадской «несучаснай» беларускай мове. Неакаланіяльныя стэрэатыпы і дагэтуль навязваюцца беларускаму грамадству праз сродкі масавай інфармацыі Расійскай Федэрацыі і дзяржаўную, па сутнасці неакаланіяльную, тэлерадыёкампанію РБ.



У тэлевізійнай прасторы Беларусі адсутнічаюць трансляцыі на мовах іншых, акрамя рускай, нацыянальных меншасцяў краіны. Тэлегледачы фактычна пазбаўлены і магчымасці знаёміцца са здабыткамі еўрапейскай і сусветнай культуры. Кабельныя аператары на Беларусі, як правіла, рэтранслююць расійскія тэлеканалы і некаторыя міжнародныя спадарожнікавыя каналы на англійскай, нямецкай і французскай мовах. Варта адзначыць, што ўзровень валодання замежнымі мовамі, асабліва сярод прадстаўнікоў старэйшага пакалення, вельмі нізкі, што зніжае глядацкую цікаўнасць да гэтых інфармацыйных рэсурсаў. Фактычна сучасны беларус, які жыве ў цэнтры Еўропы, знаходзіцца ў міжнароднай і ўнутранай інтэлектуальнай ізаляцыі.

Але ў Беларусі спакваля пачынаецца будаўніцтва грамадзянскай супольнасці. Такія арганізацыі, як Беларуская асацыяцыя журналістаў і Таварыства беларускай мовы змаглі згуртаваць вакол сябе прадстаўнікоў нацыянальнай інтэлектуальнай эліты, здольных рэалізаваць на еўрапейскіх дэмакратычных прынцыпах ідэю стварэння грамадскага тэлебачання ў Беларусі. Узровень навукова-тэхнічнага развіцця дазваляе ўжо на сённяшні дзень арганізаваць спадарожнікавае тэлевяшчанне на беларускай мове.

Паводле апытання, праведзенага «Камсамольскай праўдай в Белоруссии», кожны трэці жыхар Мінска аддае перавагу, сярод іншага, набыццю камплекта для прыёму спадарожнікавых тэлевізійных сігналаў. Ужо сёння доступ жыхароў Мінска да спадарожнікавага вяшчання складае каля 50%, разам з рэтрансляцыяй сігналаў праз апаратуру кабельных сетак. Самастойна ў сталіцы Беларусі прымаюць спадарожнікавыя сігналы каля 10% тэлепрыёмнікаў.

Асаблівую важкасць набываюць намаганні стварэння, можа і ўнікальнай па сваёй задуме і рэалізацыі, ідэі арганізацыі праз спадарожнік беларускага грамадскага тэлевяшчання ва ўмовах манапалізацыі дзяржавай усіх электронных СМІ на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

У траўні 2002 года ў сядзібе Таварыства беларускай мовы сабралася грамадская група, зацікаўленая ў стварэнні незалежнага беларускамоўнага тэлевяшчання. Менавіта тэлевяшчання, а не толькі ўласнага тэлеканала, бо ўжо зараз існуюць шматмоўныя міжнародныя і еўрапейскія тэлеканалы. Так, прыкладам, тэлеканал EUROSPORT вядзе трансляцыю адначасова на 18 еўрапейскіх мовах, і 96% гледачоў маюць магчымасць атрымліваць інфармацыю на роднай мове. EuroNews вяшчае на 7 мовах. Развіццё сучасных тэлекамунікацыйных тэхналогій дазваляе спажыўцу выбіраць гукавы радыёканал для відэакарцінкі. Такім чынам, пры пэўнай працы магчыма разам з уласным незалежным тэлеканалам арганізаваць трансляцыю пакета міжнародных тэлепраграм на беларускай мове. Ужо зараз існуюць такія аналагі на прыкладзе пакета праграм НТВ+, дзе разам з «НТВ-Плюс спорт» можна глядзець яшчэ 24 расійскія і міжнародныя тэлеканалы на рускай мове. Вялікую актуальнасць стварэння пакета такіх праграм пацвердзілі падзеі, звязаныя са зрывам футбольных матчаў з чэмпіянату свету па футболе 2002 году.

На пасяджэнні грамадскай групы былі заслуханы паведамленні спецыялістаў аб магчымасці і рэальнасці арганізацыі спадарожнікавага вяшчання на Беларусь. У якасці прыкладу разгляданіся феномены курдскага і аджарскага тэлаканалаў. І калі існаванне курдскага тэлебачання для шматмільённага курдскага насельніцтва не выклікала асаблівых пытанняў, то паведамленне пра тое, што 300-тысячнае насельніцтва Аджарыі (складовая частка Грузіі) мае сваё вяшчанне, уразіла і перакапала, што 10-мільённы беларускі народ можа зрабіць прарыў у тэлевізійнай сферы ў самыя бліжэйшыя часы.

Менавіта таму на другім пасяджэнні ініцыятыўнай групы была створана працоўная група па напісанні канцэпцыі заснавання і дзейнасці міжнароднага этнакультурнага беларускага спадарожнікавага тэлеканала і арганізацыі дзейнасці беларускамоўнага тэлевяшчання вядучых міжнародных і еўрапейскіх тэлеканалаў. Цяпер Таварыства беларускай мовы вядзе кансультацыі з вядучымі тэлеканаламі, з прадстаўнікамі кампаніяў па аказанні паслугаў спадарожнікавых рэтрансляцыяў.

**Сяргей КРУЧКОЎ**

# Абнаўленне галоўнай плошчы

## *Плошча Незалежнасці пазбаўляецца нуднага выгляду*

**Тое, што павінна атрымацца пасля рэканструкцыі на плошчы Незалежнасці, натуральна, уразіць многіх менчукоў і гасцей сталіцы. Як усё сучаснае, новае і нязвыклае.**



За аснову рэканструкцыі плошчы Незалежнасці ўзяты праект інстытуту «Мінскграда», які перамог у 2001 годзе ў конкурсе, абвешчаным гарадскім камітэтам архітэктуры. Гэта быў ужо трэці конкурс, які праводзіўся з мэтай пошуку канцэпцыі новага выгляду галоўнай сталічнай плошчы. Першы конкурс адбыўся яшчэ ў 1970-ых гадах, а другі – напачатку 1990-ых. Але праектныя прапановы з абодвух так і засталіся гісторыяй архітэктурнай думкі. У леташнім конкурсе бралі ўдзел чатыры праектныя арганізацыі, кожная з якіх прадставіла па два свае варыянты рэканструкцыі плошчы.

Творчая група інстытуту «Мінскпраект», напрыклад, прапанавала зрабіць «беларускі Арбат»: саму плошчу Незалежнасці, а таксама частку праспекту Скарыны ад яе да цырку аддаць пад пешаходную зону, а транспарт пусціць пад зямлю. Плошча тады б ператварылася ў вялікую рэкрэацыйную зону з шматузроўневай сцэнай, вялікім плазменным экранам, музычным фантанам, прыгожымі лаўкамі і ўтульным скверам. Сквер, што быў тут нядаўняга часу, быў месцам адпачынку, як кажуць, пакольki-пастолькі. Дарога да яго пралягала праз шчыльны паток машын, ды і пасядзець там, калі вакол усё гудзе, асаблівага задавальнення не было. На падземным узроўні, паводле памянёнага праекту, мусілі б размесціцца шматпавярховы гандлёвы цэнтр, аўтастаянка, музей гораду Мінска і выставачныя залы. Такім чынам, плошча Незалежнасці стала б цэнтрам баўлення вольнага часу менчукоў. Задума адпавядае вымогам і стылю 21-га стагоддзя. Але мінскія ўлады, відаць, палічылі яе занадта фантастычнай і дарагой.

Архітэктары «Мінскграмадзянпраекту» прапанавалі, наадварот, ператварыць плошчу Незалежнасці ў бізнесовы цэнтр сталіцы. У прыватнасці, пабудаваць тры вялікія (па 30 паверхаў кожны) хмарачосы: гатэльны комплекс на базе існуючага гатэлю «Мінск», на базе будынку Мінгарвыканкаму – адміністрацыйна-офісны цэнтр, а за галоўным корпусам Педагагічнага універсітэту – велізарны культурна-адукацыйны цэнтр. Транспарт мусіў быць спушчаны пад зямлю, там жа павінна была размесціцца аўтастаянка.

Былі праекты і больш сціплыя, без вялікіх узлётаў фантазіі, але ў выніку перамога была прызнаная за «Мінскграда». Пераможца прапаноўваў, калі ўжо займацца рэканструкцыяй плошчы, то падысці да гэтага радыкальна. Так, меркавалася, што цэнтр плошчы павінен быць аддадзены пад суперсучасны будынак са шкла і металічных канструкцыяў. Ён бы стаў цэнтральным будынкам плошчы, гэткай ейнай «разынкай», складзенай з трох аднолькавых кубічных частак, звязаных паміж сабою галерэямі. У адным «кубе» размесціўся б інфармацыйны цэнтр, у другім – выставы, у трэцім - гандаль, а ў галерэях-пераходах – рэстарацыі і кавярні, дзе наведвальнікі маглі б і адпачыць, і падзівіцца на краявіды Мінску. Транспартная развязка з плошчы, па задуме аўтараў праекту, павінна была б быць замененая адной дарогай уздоўж будынкаў Мінгарвыканкаму і БДУ, а астатняя тэрыторыя адведзеная пад зону для адпачынку.

Хоць гэтая канцэпцыя бачання будучыні плошчы была прызнаная лепшай, аднак адразу па завяршэнні конкурсу было заяўлена, што цалкам, як ёсць, задума ейных аўтараў рэалізавана ўсё роўна не будзе і праект трэба яшчэ перапрацоўваць. За год яго «падчысцілі», прывялі ў адпаведнасць да таго фінансавання, што рэальна пад яго можна знайсці ў бюджэце. І ў выніку ад першапачатковай задумы засталося няшмат.

Яшчэ раз паўтару, звышкардынальных зменаў і знаходак у перааздабленні ў знешнім выглядзе плошчы Незалежнасці чакаць не даводзіцца. З'явяцца адна прамая транспартная магістраль ад праспекту Скарыны да вуліцы Маскоўская і нязвыклы для нас цуд – светлаамузычны фантан. Фантан і помнік «народу-працаўніку» стануць галоўнымі аздабленнямі ўсёй плошчы і таго месца, дзе гэты самы народ-працаўнік і будзе адпачываць. Пад гэта будзе аддадзена большая частка плошчы з зелянінай і лаўкамі. Акрамя таго, па выходных у пешаходную зону будзе ператварацца ўся плошча і частка праспекту Ф.Скарыны да плошчы Якуба Коласа. Ва ўсялякім выпадку такі варыянт эксплуатацыі гэтых мясцін гарадскімі ўладамі разглядаецца.

Прылеглым да плошчы будынкам прыйдзецца «падцягнуцца» да новага выгляду плошчы. Чырвонаму касцёлу вернуць агароджу, іншым будынкам «падправяць» фасады, а да Педагагічнага універсітэту прыбудуюць яшчэ чатыры паверхі. Там, на ўзроўні 20-га паверха, размесціцца рэстарацыя і пляцоўка, з якой жадаючыя могуць падзівіцца на прыўкрасы сталіцы. Забрацца на такую вышыню можна будзе па двух знешніх ліфтах з падземнай часткі плошчы.

А пад зямлёй на чатыры ўзроўні ўглыб раскінецца грамадска-гандлёвы цэнтр. З зямлі на першы падземны ўзровень можна будзе патрапіць праз адзін з пяці пешаходных пераходаў, што пралягуць пад транспартнай магістраллю. Тут ужо для пешаходаў будзе адведзена цэлая пешаходная вуліца. Цэнтральнае месца на ёй будзе аддадзена пад вялікі універмаг і універсам, а з бакоў прыладзяцца офісы турыстычных фірм і модныя бутыкі. Знойдзецца таксама месца для бараў, кавярняў і рэстарацыяў, якія змогуць змясціць да 700 наведвальнікаў. Карацей, усё згодна з апошнім заходнім стандартам у архітэктуры і будаўніцтве: будуць яшчэ і эскалатары паміж паверхамі, і стаянкі для аўтамашынаў.

Асобнае месца ў падземным цэнтры зойме круглая універсальная зала, у якой можна будзе ладзіць і канцэрты, і пратакольныя паседжанні. Увышыню яна зойме тры паверхі і замест звычайнай столі скончыцца вялікім шкляным купалам, які выйдзе на паверхню плошчы. Гэта так званы ліхтар дзённага святла. То будзе адна з самых вялікіх залаў краіны, бо адначасова яна зможа змясціць да 3,5 тысяч гледачоў.

Добра, што наша сталіца папраўляе аблічча напачатку новага стагоддзя. І няважна – ці то гэта дзе на ўскраіне пакладуць новы асфальт, ці то гэта грунтоўная рэканструкцыя самай галоўнай плошчы гораду. Вось толькі якіх бы тут выкшталцонасцяў і зручнасцяў ні панарабілі, усё пакрэсліць хаця б вось якая недарэчнасць, вось які анахранізм. Плошчай 21-га стагоддзя назваць плошчу Незалежнасці язык не павернецца датуль, пакуль каля Дома ўраду будзе стаяць помнік Леніну. Але, што праўда, для замежных турыстаў помнік Леніну – гэта адно з самых цікавых месцаў у беларускай сталіцы. Ці не ўсе з іх тут дастаюць фотаапараты, каб шчоўкнуцца на тлеаграмаднага Ільліча. А на радзіме яны абавязкова згадаюць, чыя бронзавая постаць стаіць на самай вялікай плошчы ва ўсёй Еўропе.

Плошча Незалежнасці – галоўная плошча не толькі Мінску, але і ўсёй Беларусі. Манумента, які б сімвалізаваў незалежнасць краіны, на плошчы Незалежнасці так і няма.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

Многія архітэктары вам скажуць, што прыбіраць помнік Леніну з пляцоўкі каля Дома ўраду не выпадае. Не з ідэалагічных прычын, а таму што тады парушыцца тамтэйшая архітэктурная ансамблевасць. Помнік перад Домам ураду павінен быць. На жаль, намеры замяніць помнік Леніну на нешта больш годнае і нацыянальнае не ўва што не ўвасобіліся. Хоць варыянтаў было шмат. Заір Азгур нават было зрабіў «Пагоню» – вершніка на кані. Праўда, чый твар у яго будзе, тады так і не вырашылі. Гэта мог бы быць і Кастусь Каліноўскі, і Тадэвуш Касцюшка. Была таксама задума, калі праспект Леніна стаў скарынаўскім, адпаведна і помнік замяніць.

Зрэшты, першапачаткова аўтар праекта Дома ўраду архітэктар Іосіф Лангбард ніякага помніка каля яго наогул не планаваў. Гэты будынак мусіў быць узведзены з каланаднай звязкай паміж бакавымі карпусамі на манер яшчэ аднаго спаруду лангбардаўскай архітэктурнай спадчыны ў Мінску – Акадэміі навук.

У абвешчаным напачатку 1930-ых гадоў конкурсе на помнік (зразумела, што толькі Леніну і нікому іншаму) перамог ленінградскі скульптар Матвей Манізер. Ягоны сяміметровы і самы высокі ва ўсім СССР правадыр пралетарыяту быў пастаўлены ў Мінску на чорны пастамент у 1933 годзе. А вось Кіеву Манізер праз колькі гадоў зрабіў ужо не Леніна, а Шаўчэнку. Цікава, што самы першы помнік Леніну ў былым Савецкім Саюзе таксама з'явіўся ў Беларусі – яшчэ пры ягоным жыцці ў Краснаполлі, што на Магілёўшчыне. А помнікавая лениніяда ў Мінску пачалася з 1925 году, калі Ільліча ў метале ўсталявалі перад Камуністычным універсітэтам, які цяпер носіць назву Беларускага дзяржуніверсітэту.

У сярэдзіне 50-ых у помніка Леніну з'явіўся канкурэнт – на Цэнтральнай плошчы паўстаў бронзавы Сталін, які быў на 10 метраў вышэй за Леніна. Дзеля яго ўстаноўкі узарвалі былы Дамініканскі касцёл, які, на густ уладаў, аніяк не пасаваў са Сталіным.

Гэтая гіганцкая скульптура, зноў жа самая вялікая ў СССР, прастаяла на гэтым месцы да лістапада 1962 году. Тады, на асабісты загад Машэрава, помнік і пастамент салдаты рушылі цэлы тыдзень. Але тое ж самае рабілі са сталінскімі скульптурамі па ўсіх рэспубліках Савецкага Саюза па рашэнню ЦК КПСС.

# *Івянецкая*

Гэтым летам Івянец святкаваў 300-годдзе сваёй духоўнай святыні і архітэктурнай аздобы – касцёла Міхала Арханёла. Гэты прыгожы комплекс аточаных мурам будынкаў стаіць у цэнтры гораду на беразе Валмянкі. Касцёл шырока вядомы дзякуючы таму, што патрапіў ва ўсе архітэктурныя даведнікі і энцыклапедыі як выдатны помнік культуры беларускага барока. Але ў ваенныя і пасляваенныя гады патрапіць за мураваную агароджу звычайны чалавек не мог. Ён быў не проста зачынены для вернікаў, ён быў адняты ў іх уладамі.

Багатая на пакуты гісторыя касцёла пачалася ў студзені 1702 года, калі мінскі стольнік Тэадор Ваньковіч, якому належаў Івянец, падараваў частку сваіх уладанняў францішканам і выдаў ім фундуш на пабудову ў мястэчку кляштару. У 1705 годзе касцёл быў асвячоны ў гонар св. Антонія Падуанскага. Па некаторых звестках, першапачаткова касцёл быў драўляны, але найбольшае тагачаснае бедства –



# Настаўніцкія грошы

## Настаўніку нельга быць бедным, бо ён заўжды на віду

По звестках, атрыманых у Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, у траўні сярэдні заробак у галіне адукацыі склаў 163.300 рублёў. Педагагічныя работнікі атрымалі ў сярэднім 186.200 рублёў, настаўнікі – 190.400 рублёў, прафесарска–выкладчыцкі склад – 283.300 рублёў.

А цяпер давайце ўявім, што настаўнік са сваімі 190 тысячамі прыйшоў на школьны базар. Гарнітур для хлопчыка каштуе 38 тысяч (34 памер) і 60 тысяч (42 памер). Сарочка – 8-9 тысяч, а іх трэба як мінімум 3. Ужо толькі на вопратку трэба патраціць ад 62 да 84 тысяч. Пры гэтым не ўлічаны кошт бялізны, абутку і спартыўнай формы.

У аддзеле па продажу школьна–пісьмовых прыладаў бацькі ўвогуле пакідаюць большую частку заробку. Давайце палічым. Звычайны сшытак у касую лінейку каштуе ад 80 да 130 рублёў. Зразумела, што менш, чым 20 сшыткаў, ніхто не набывае. У старэйшых класах патрэбны агульныя і паўагульныя сшыткі. Яны каштуюць ад 422 да 591 рубля. Альбом для малявання можна набыць за 450 рублёў, а можна і за 1.300. Дзённікі прадаюцца ў вялікім асартыменце і такія ж «нажніцы» ў коштах – 366 – 722 – 1000 рублёў. Яшчэ кажуць, што нейкія дзённікі ўжо не сапраўдныя, але аб гэтым хутчэй ведаюць настаўнікі, а не прадаўцы. Таму, калі дзеці прыйдуць у школу «не з тымі дзённікамі» зноў будуць непаразуменні, якія адаб'юцца на кішэні бацькоў і нервах настаўнікаў. Папка для ўрокаў працы каштуе 6.555 рублёў, набор кардону 699 – 1375, набор каляровай паперы – 471–2.115, фламасцеры – 312–1300, фарбы акварэльныя – 967 – 7.060 рублёў. Пенал каштуе ад 2.700 да 9.500 рублёў, папка для сшыткаў ад 4 да 9 тысяч. Ранцы для малодшых школьнікаў і заплечнік для старэйшых каштуюць аднолькава - ад 11 да 22 тысяч, хаця ў ГУМе ёсць ранец і за 41.800 рублёў.



Фота У. Шляпак

Зразумела, што нехта з бацькоў пойдзе набываць дзецям рэчы на рынку, але не факт, што там будзе танней. Можа, усяго настаўніцкага заробку і хопіць, але ж у яго ёсць і іншыя патрэбы. Акрамя звычайных, апрануцца, паесці, заплаціць за камунальныя паслугі, было б вельмі няблага выпісаць часопісы па свайму прадмету. На гэта хапае 7.500 рублёў, што даюць настаўнікам на набыццё метадычнай літаратуры. Але гэтых грошай не хапае, каб набыць навейшыя дыдактычныя матэрыялы. Звычайна ж настаўнікі набываюць новыя падручнікі, метадычкі на кніжных выставах, бо танней. Дык гэта дало падставу чыноўнікам думаць аб тым, каб адмяніць гэту даплату, бо «не купляюць у нашых крамах».

Але падаецца, што ўсё гэта будзе неактуальна ў сувязі з тым, што значна скарачаюцца навучальныя планы і шмат настаўнікаў будуць вымушаны шукаць працу. Па папярэдніх звестках, скараціць павінны 6.000 чалавек па ўсёй краіне. Пакуль што ў школах працуе каля 4.000 пенсіянераў і 1000 студэнтаў. Нават пры гэтым 1000 настаўнікаў павінны шукаць працу. Тыя, хто застанецца ў школе, ужо не змогуць працаваць больш, чым на стаўку. Вядома, што цяпер сярэдняя стаўка настаўніка складае 1,37 і толькі гэта дае магчымасць зарабляць «сярэднія» 190 тысяч. Новая методыка падліку працоўнай нагрузкі настаўнікаў якраз і разлічана на тое, каб больш, чым на стаўку, не магчыма было працаваць.

**Паліна АЛЕКСАНДРОВІЧ**

## Кошт навучання

### Набліжаецца 1 верасня

Па традыцы, для многіх сем`яў – гэта свята. Але, як і кожнае свята, яно патрабуе выдаткаваць рэальныя грашовыя сродкі. З кожным годам гэтыя выдаткі растуць і ўсё больш апустошваюць бацькоўскую кішэню.

Сёлета я адпраўляю свайго дзевяцігадовага сына ў 3 клас. Мы нагледзелі ўжо набыць яму:

1. Касцюм школьны (тройка) – 46.600
2. Чаравікі асеннія – 27.000
3. Спартыўны касцюм – 23.000
4. Кашулі (2 шт.) – 18.000
5. Спартыўны абутак (красоўкі, г.. Ліда) – 10.000
6. Сумка – 15.000

Яшчэ трэба на год, пэўна, з сотню розных сшыткаў па 130 руб. (сама танна) – 13.000.

Пісьмовыя прылады – яшчэ 5.000 (сама мала).

Альбом для малявання, фарбы (гуаш) – яшчэ 5.000.

Калі ўлічыць, што яшчэ трэба куртку, хаця б адну пару штаноў на змену, абутак для школьнага памяшкання – поўны кошт перавысіць 200.000 рублёў.

## Настроі

### «Чалавека сустракаюць па адзенні»

Хочацца выглядаць хораша, модна. Наколькі гэта актуальна для настаўнікаў напярэдадні 1 верасня?

**Ліда, настаўніца пачатковых класаў, г. Мінск. Працоўны стаж – 23 гады:**

Сёлета за 3 летнія месяцы (разам з адпачынкам) атрымала 500.000 рублёў. Пры тым, што я маю вялікі стаж, больш за 18 гадзін нагрузкі і вышэйшую катэгорыю, грошы не такія вялікія. Да 1 верасня абноўку не планавала, але атрымала запрашэнне на вяселле. То ўжо, напэўна, давядзецца штосьці набыць. Звычайна адзенне купляю на рынку, аддаю перавагу таварам польскай вытворчасці. Яны каштуюць танней за нашыя, а якасць іх добрая, ды і маднейшыя.

**Вольга, настаўніца рускай мовы ў Мінскай вобласці. Працуе 19 гадоў:**

Да гэтага часу (канец лета) не атрымала адпускных. Таму пытанне абноваў адпадае. Першы дзень новага навучальнага года сустрэну ў традыцыйным ужо касцюме. Абутак таксама будзе традыцыйным. Звычайна ж абновы набываю ў магазіне. А ўвогуле мяне больш хвалюе тое, што іду на працу, не ведаючы сеткі гадзін, сваёй нагрузкі. Сёлета надзвычай змяніліся праграмы, сістэма ацэнкі ведаў. Не ведаю, што дасць вызвалены дзень. Матэрыяльны стан многіх сем`яў такі, што вучні не могуць набыць дастаткова сшыткаў. Вырываем з выкарыстаных сшыткаў лісты, каб было на чым пісаць самастойныя работы.

**Таня, настаўніца беларускай мовы, Мінск. Працуе 10 гадоў:**

За летні перыяд, пры тым, што я мела паўтары стаўкі, атрымала 400.000 рублёў. Да 1 верасня абавязкова павінна мець абноўку. Хачу радаваць сваіх вучняў. Як правіла, абноўкі мне робіць муж. Дзе ён набывае іх, колькі на гэта выдаткоўвае – не ведаю.

## Святыні

# старажытная аздоба

гарадскі пажар – знішчыў яго, і тады касцёльна-кляштарны комплекс збудавалі з цэглы. Пры кляштары быў шпіталь, які фундавалі Салагубы. Кляштар айцоў-францішканаў дзейнічаў у Івянцы да 1832 году, а пасля задушэння паўстання яго, як і мноства іншых каталіцкіх храмаў і кляштараў, закрылі нібыта на пераробку ў пансіён для састарэлых святароў.

У 1856-1860 гадах касцёл адрэстаўравалі і асвяцілі ў гонар Міхала Арханёла і зрабілі парафіяльным. Пасля наступнага паўстання ўлады прымалі больш жорсткія меры, і па распараджэнні імперскага міністэрства ўнутраных справаў у 1868 годзе касцёл зачынілі. Праз дваццаць гадоў будынак касцёла пераасвяцілі ў праваслаўную царкву, а кляштар перадалі пад праваслаўны манастыр. Пасля Рыжскага міру, калі Заходняя Беларусь патрапіла пад польскую ўладу, касцёл вярнулі каталіцкім вернікам, і ў траўні таго 1921 году ў Івянец вярнуліся францішкане, ды нядоўга яны праводзілі тут службы. Увосень 1939 адбылося ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР, а неўзабаве паследавала гітлераўскае нашэсце. Немцы ператварылі касцёл у камендатуру і размясцілі тут на пастой 70 жандараў. Прынцыповы курс савецкай улады на вынішчэнне рэлігійных святыняў не ашчадзіў і белы івянецкі касцёл. Спачатку ў ім зрабілі магазін, потым тут перавыконваў нормы засолачны цэх раённай нарыхтоўчай канторы, а пасля яе касцёл і кляштар шмат гадоў займаў эксперыментальны цэх Мінскага праектна-канструктарскага тэхналагічнага інстытута. Цяпер касцёл і кляштар зноў служаць духоўнасці.





Фота У. Шляпак

# «Чалавек, якога не паважае дзяржава»

## Вобраз настаўніка ў народнай свядомасці

**Натуральна, шмат у чым Беларусь адрозніваецца ад Расіі. Але што датычыць адукацыйнай сістэмы, дык адрозненні зусім нязначныя, бо абедзве дзяржавы ў гэтай сферы мелі папярэдніцай адну і тую ж савецкую структуру школьнай і вышэйшай асветы, тыя ж самыя праграмы і аднолькава падрыхтаваныя настаўніцкія і выкладчыцкія кадры. У сувязі з такім падабенствам уяўляюцца цікавымі даныя апытання пра вобраз настаўніка і выкладчыка, якое правёў у Расійскай Федэрацыі Фонд «Грамадская думка».**

### Школьны настаўнік

Настаўнік – фігура амаль харызматычная. Можа, не сам настаўнік фізічна, але архетып настаўніка. Вобраз школьнага настаўніка ў свядомасці грамадзянаў склаўся даволі прыстойны, пра што сведчаць даныя апытання гарадскога і вясковага насельніцтва.

Кожны трэці рэспандэнт (34%) лічыць, што настаўнікі робяць сваю справу добра ці нават выдатна. Часцей за іншых такі пункт гледжання падзяляюць людзі ва ўзросце 18-35 гадоў. Гэта азначае, што на дадзены момант ацэнка маладымі пакаленнямі настаўнікаў адэкватная таму ўяўленню пра сучаснага настаўніка, якое склалася ў іх яшчэ ў дзяцінстве. Чалавек ідзе ў школу і знаходзіць там менавіта тое, што падсвядома чакаў сустрэць. Відаць, гэта лепш, чым адваротная з'ява.

Яшчэ траціна апытаных (32%) мяркуе, што настаўнікі задавальняльна выконваюць свае абавязкі. Не задаволены іхнай працай толькі 10% удзельнікаў апытання. Рэспандэнты адзначалі таксама, што настаўнік – гэта «высокаадукаваны чалавек» з «шырокім даляглядам» (10%), «які ведае і любіць сваю справу» (7%). «Вельмі разумным» назвалі яго 5% грамадзянаў, «патрабавальным» – яшчэ 2%. Столькі ж апытаных адзначылі добрасумленнасць і працавітасць прадстаўнікоў педагагічнай прафесіі. 6% рэспандэнтаў назвалі настаўніка «прыстойным», 5% – «добрым да дзяцей», яшчэ 3% – «выхаваным» і, нарэшце, 2% ахарактарызавалі яго як чалавека «чуйнага». Калі зірнуць на адмоўныя водгукі, то галоўная прэтэнзія датычыла прагнасці школьных работнікаў: яны «больш стараюцца атрымаць з бацькоў, чым вучыць дзяцей», «вымагаюць грошы» (4%).

Гэтулькі ж апытаных абвінавачваюць іх у «няўвазе да вучняў». 3% паказваюць на «халатнае стаўленне да сваіх абавязкаў» і яшчэ 3% – на «малапісьменнасць».

13% адзначылі сацыяльную неабароненасць настаўнікаў: «робяць сваю справу за грашы», «у іх жабрацкае існаванне». А на думку 4% рэспандэнтаў, настаўнік – гэта «чалавек, якога не паважае дзяржава», з ім «ніхто не лічыцца».

Увогуле, як бачна, вобраз педагога ў свядомасці нашых грамадзянаў сапраўды вельмі добры. Шмат у чым, на такое ўспрыняцце ўплывае харызма, якой настаўнік надзелены па статусу, бо прызваны даваць базавыя, самыя неабходныя веды, без якіх у далейшым жыцці не абысціся.

### Выкладчык ВНУ

А вось з адносінамі грамадзянаў да выкладчыкаў ВНУ карціна выглядае значна інакш. Тут кожны пяты рэспандэнт (20%) лічыць, што выкладчыкі нашых ВНУ спраўляюцца са сваімі абавязкамі добра ці выдатна. На думку 23% удзельнікаў апытання выкладчыкі працуюць задавальняльна. Негатыўна ацэньваюць іхную працу 7% апытаных. І амаль палова рэспандэнтаў (49%) не адважылася ацэніць якасць працы выкладчыкаў вышэйшай школы.

Паказальна, што пэўныя адказы («выдатна» і «добра» – 34%, а таксама «дрэнна» - 11%) давалі большай часткай людзі, якія маюць вышэйшую адукацыю. Гэта і не дзіўна: яны самі сутыкаліся з выкладчыкамі, таму ім ёсць што паказаць у якасці аргументу. У названай групе доля тых, каму было цяжкавата даць адказ, самая малая і складае 28%. Для параўнання: доля тых, хто не наважыўся даць адказ на гэтае пытанне ў групе рэспандэнтаў з няпоўнай сярэдняй адукацыяй, складае 67%, у групе з сярэдняй адукацыяй – 52%, з сярэдняй спецыяльнай – 45%. Доля людзей, якія ацэньвалі працу выкладчыкаў ВНУ як кепскую і вельмі кепскую ў групе з няпоўнай сярэдняй адукацыяй, складае 5%, з сярэдняй – 8%, з сярэдняй спецыяльнай – 6%. Такім чынам, працу выкладчыкаў людзі з вышэйшай адукацыяй ацэньваюць больш строга, чым іншыя.

20% апытаных далі пры апісанні партрэта сучаснага выкладчыка станоўчыя характарыстыкі. Згодна з распаўсюджаным уяўленнем, ён «усебакова пісьменны чалавек», «кампетэнтны ў шмат якіх пытаннях» (9%), «інтэлектуал» (5%), «спецыяліст у сваёй сферы» (4%). Не забыліся апытаныя і на маральныя якасці: «інтэлігентны ва ўсіх адносінах» (3%), «праўдзівы і прыстойны» (2%).

Негатыўныя водгукі далі толькі 15% апытаных, і найперш гэта былі абвінавачванні ў хабарніцтве (12%): «цалкам дробязнікі, хабарнікі, веды студэнтаў ці абітурыентаў іх не цікавяць», «залікі ставяць за грошы».

Цікава адзначыць і такую шырокую думку. Калі настаўнікаў сярэдняй школы рэспандэнты адназначна прылічаюць да малазабяспечаных людзей, дык адносна пытання пра заможнасць працаўнікоў ВНУ думкі падзяліліся. Адны лічаць іх людзьмі, «якіх крыўдуюць нізкай зарплатай», іншыя бачаць у іх людзей «з грашыма», «з немалым дастаткам».

### Высновы

Можна смела казаць, што ў масавай свядомасці існуе ясна бачны архетып настаўніка сярэдняй школы. (Не будзе памылкай сцвярджэнне, што ў мноства людзей ён асацыюецца з інтэлігентным мужчынам гадоў прыкладна 35-60, які навучае вясковых падлеткаў.) Але калі вобраз школьнага настаўніка выклікае ў шырокай свядомасці дакладныя асацыяцыі, то гэтак немагчыма сказаць пра выкладчыка ВНУ. Хто ён? Кніжнік? Вучоны? Тут масавая свядомасць губляецца. З аднаго боку, нібыта настаўнік... З другога, на які шлях ён настаўляе дарослых слухачоў? Ён проста выкладае ім нейкі спецкурс... Бліжэй за ўсё, відавочна, па духу вучоны ў народнай свядомасці павінен стаяць да чарадзея. Больш дакладна – да таго алхіміка, які ў цемры нейкіх цёмных стагоддзяў змешваў нешта адно з нечым іншым, каб атрымаць «філасофскі камень». Аднак гэтакае ўяўленне для большасці азначае фантастычную дзейнасць.

Калі акрэсленне сваіх адносінаў да сучаснага настаўніка ўваходзіць, так мовіць, у план дзеянняў практычна кожнага чалавека (хоць бы таму, што перад ім стаіць неабходнасць ісці ў школу, а ў далейшым весці туды сваіх дзяцей), дык вызначыць свае адносіны да выкладчыкаў ВНУ чалавеку, які ніколі не сутыкаўся з імі асабіста, няма ніякай патрэбы. Да таго моманту, як перад ім узнікае перспектыва паступіць ва універсітэт ці інстытут, архетыпы ўжо не здольныя паўплываць на ягоны выбар – ён усведамляе неабходнасць атрымання вышэйшай адукацыі. Дзецям таксама нічога пра выкладчыкаў ВНУ не гавораць і не прымушаюць задумвацца пра такія аддаленыя па часе стасункі з «вузкімі спецыялістамі». Архетыпа, такім чынам, не існуе, бо ў ім няма патрэбы. Таму няма на што абаперціся ў выказваннях. У выніку атрымоўваем 49%, якія не адважваюцца адказаць на пытанне «Як вы ўяўляеце сабе выкладчыка ВНУ?» – «Ды ніяк не ўяўляю, - думае рэспандэнт. – Няма ў маёй свядомасці асацыяцыі, якая дазваляе сказаць – гэта ён!» Максімум, з чым можна асацыяваць выкладчыка ВНУ – з інтэлігентам першай паловы мінулага стагоддзя. Менавіта яго мелі на ўвазе тыя 5% апытаных, якія паказалі на маральныя якасці цяперашніх дацэнтаў і прафесараў. А тыя 12%, якія абвінавацілі іх у хабарніцтве, бралі свае ўяўленні не з глыбінь падсвядомасці, а з асабістага вопыту ці са сродкаў масавай інфармацыі.

У сукупнасці даныя апытання даюць багатую падставу для развагаў не толькі спецыялістам, але і ўсім ахвотнікам асэнсавання грамадскіх праблемаў. Архетып настаўніка празрысты наскрозь. Архетып выкладчыка ВНУ, калі і існуе, дык толькі ў адзінкавых выпадках. Што забаўна, але цалкам лагічна: школьнае настаўніцтва заўжды было «блізкае да народу» – у адрозненне ад «дацэнтаў, прафесараў і акадэмікаў».

**Utro.ru**

# Тайная магія фальшывых грошай

***Юнае пакаленне выходзіць на сцяжыну злачынстваў з выкарыстаннем сучаснай тэхнікі***

**Ядвіга КАХАНОЎСКАЯ**

### Усім класам – у фальшываманетчыкі

Аляксандр С. і Дзяніс Н., абодва 1987 году нараджэння, былі затрыманы каля універсаму «Курган» супрацоўнікамі крымінальнай міліцыі Маскоўскага РУУС і ГУУС Мінгарвыканкаму. Непаўналетнія спрабавалі збыць падробную купюру вартасцю 20 тысяч рублёў. Пасля затрымання пры асабістым даглядзе ў Дзяніса было адшукана і канфіскавана сем падробных купюр вартасцю 5 тысяч рублёў. У ходзе расследавання крымінальнай справы была ўстаноўлена асоба вытворцы гэтых фальшывых купюр – Юрыя Т., 1985 году нараджэння. У ходзе правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікамі аддзелу па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю былі вызначаны асобы больш як 30 збытчыкаў фальшывых грошай ва ўзросце ад 14 да 17 год. Таксама «абэзаўцы» знайшлі тайнік, а ў ім дыскету з адсканаванай выявай купюр вартасцю 1.000, 5.000, 10.000, 20.000 беларускіх рублёў. Пры правядзенні вобшукаў была канфіскавана камп'ютэрная і каляровая капіравальна-размнажальная тэхніка, дыскеты, а таксама 15 купюр рознай вартасці. Па гэтых фактах узбуджана крымінальная справа па артыкуле 221, частка 2 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Па гэтым артыкуле да крымінальнай адказнасці прыцягваюцца асобы, якім на момант здзяйснення злачынства было 16 год. Пакаранне за выраб і захоўванне з мэтай збыту падробных грошай арганізаванай групай караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад 5 да 15 год з канфіскацыяй маёмасці.

### Множацца, як ксеракопіі

Неяк увечары, калі ўжо добра сцямнела, і аператары аўтазаправачнай станцыі стаміліся, да іх падышлі двое маладых людзей з просьбай памяняць пяцітысячную купюру на дробныя. Але ці то аператару нешта не спадабалася ў купюры, ці не спадабаліся хлопцы, але ён націснуў «трывожную кнопку». Прыбыў нарад міліцыі і затрымаў Дзмітрыя П., 1978 году нараджэння, і Ігара Н., 1985 году нараджэння. Пры асабістым даглядзе ў Ігара Н. была канфіскавана падробная пяцітысячная купюра. Следчы аддзел упраўлення Следчага камітэту пры МУС РБ па Мінску ўзбудзіў крымінальную справу па артыкуле 221, ч.2 Крымінальнага кодэксу. Пры вобшуку ў кватэры Дзмітрыя П. была знойдзена камп'ютэрная і каляровая капіравальна-размнажальная і сканавальная тэхніка, на якой, як патлумачыў затрыманы, і вырабляліся падробныя купюры.

Далейшае расследаванне вывела супрацоўнікаў праваахоўных органаў на яшчэ адну групу фальшываманетчыкаў. У яе ўваходзіла дзевяць чалавек. Лідэрам быў семнаццацігадовы Андрэй Ш., астатнія займаліся збытам падробных грошай на сталічных рынках і ў камерцыйных кіёсках.

### Зварот да бацькоў

***Шаноўныя бацькі, калі вашы дзеці маюць персанальныя камп'ютэры, пацікаўцеся, якой справай яны занятыя.***

# Папаліся на хабары

Гэтым летам раскрытых выпадкаў хабару пры наборы студэнтаў было меней, чым раней. Аднак, на хабары папаўся адзін з выкладчыкаў Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, а яшчэ ў Гомельскім тэхнічным універсітэце супрацоўнікамі УКДБ быў арыштаваны адказны сакратар прыёмнай камісіі. Яму перадалі ад бацькоў аднаго з абітурыентаў 1,5 тысячы даляраў для гарантаванага залічэння абітурыента ў студэнты універсітэту.

Арыштаваным за хабар выкладчыкам пагражае сур'ёзнае пакаранне – ад 5 да 10 гадоў турэмнага зняволення.

**Я.М.**

## Знайдзі 10 адрозненняў



Прафесарская сям'я перад выхадам на пенсію



Тая ж сям'я праз год пенсійнага забеспячэння

# Юбілейныя ўгодкі



## Спадчына

Ад прадзедаў спакон вякоў
Нам засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна нам ласкай матчынай.

Аб ёй мне баюць казкі-сны
Вясеннія праталіны,
І шэлест лесу верасны,
І ў полі дуб апалены.

Аб ёй мне будзіць успамін
На ніве бусел клёкатам
І той стары амшалы тын,
Што лёг ля вёсак покатам;

І тое нуднае ягнят
Блеянне-зоў на пасьбішчы,
І крык варонiных грамад
На могілкавым кладбішчы.

Жыве з ім дум маіх сям`я
І сніць з ім сны нязводныя...
Завецца ж спадчына мая
Усяго старонкай роднаю.



Уваход ў сквер пры Купалаўскім тэатры. Зараз на месцы дамоў – Цэнтральная плошча



У гэты будынак на вул. Карла Маркса ў Мінску Янка Купала часта заходзіў да акадэміка Пічэты

## Не пагаснуць зоркі

Не пагаснуць зоркі ў небе,
Пакуль неба будзе –
Не загіне край наш родны,
Пакуль жывуць людзі.

Ночка цёмная на свеце
Вечна не пануе,
Зерне, кінутае ў ніву,
Ўсходзіць і красуе.

Беларускімі рукамі
Светлай праўды сілай,
Славу лепшую напішам
Бацькаўшчыне мілай.

Не пагаснуць зоркі ў небе,
Пакуль неба будзе –
Не загіне край наш родны,
Пакуль жывуць людзі.



Касцёл святога Роха, куды хадзілі маліцца маці Купалы і ён сам у падлетках





Фантан у скверы на плошчы Свабоды ў Мінску

## Явар і каліна

Песняй вясны лебядзінаю,
Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
Ў сумнай даліне над ярам.

Лісцікі зеляняй хваляцца
Небу панятлівай мовай,
Росамі мыюцца раніцай,
Песцяцца сонцам паўднёвым.

Чуецца музыка дзіўная
Ў повесцях сонных імпараў,
Цешыцца явар з калінаю,
Скінуўшы зімнія чары.

Песняй вясны лебядзінаю,
Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
Ў сумнай даліне над ярам.



Спецыяльны мост пад трамвай цераз Нямігу каля 2-й клінічнай бальніцы

## *Прыслухайся – пачуеш крокі*

Вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа, песні на іхныя вершы, некалькі з якіх мы тут узгадваем, даўно сталі здабыткам нашай агульнанацыянальнай культуры, здабыткам кожнага, звычным складнікам нашага духоўнага быцця – мы як падарунак атрымоўваем іх у маленстве і карыстаемся штодзённа, слухаючы песні па радыё і на канцэртах, ці самі пяючы, ці ўжываючы для аздаблення сваёй мовы пакінутыя нам паэтамі іх «крылатыя» выслоўі. Кожны ў Беларусі з школьных гадоў шмат ведае пра жыццё вялікіх песняроў, хоць раз ды пабываў у іхных мемарыяльных музеях у Мінску, Вязынцы, Мікалаеўшчыне. Даследнікамі вывучана творчасць паэтаў, праследжана хроніка іх жыцця, публікуюцца недрукаваная ці забароненая да друку раней іх спадчына, і цяжка дадаць нешта новае, невядомае пра іхні лёс, літаратурную і грамадскую дзейнасць.

Але сённяшнія маладыя пакаленні жывуць у іншай Беларусі, у тых гарадах, мястэчках і вёсках, якіх не бачылі ні Колас, ні Купала. Навакольнае асяроддзе надта моцна змянілася. Якуб Колас не бачыў асушанага Палесся, гарадскіх мікраraёнаў, сучаснай вёскі, а Купала не ўбачыў нават зруйнаваны і адроджаны пасля вайны Мінск.

Таксама і мы ўсе, за выключэннем нешматлікіх людзей паважанага веку, не бачылі і не можам уявіць тое навакольнае, хоць бы архітэктурнае, асяроддзе, у якім існавалі людзі да вайны, той гарадскі пейзаж і тую атмасферу, дзе рабілі, стваралі, сустракаліся, гулялі Купала і Колас.

Таму гэтыя юбілейныя старонкі рэдакцыя вырашыла праілюстраваць здымкамі тых вуліц і будынкаў Мінску, якіх ужо няма, якія згінулі у часе вайны ці былі зруйнаваныя пры рэканструкцыях у пасляваенны час. Добрай падставай для гэтага стала выданне фотаальбома (гл. рэцэнзію на стар. 9), у якім сабрана шмат унікальных здымкаў.

Ад таго часу засталося мала архітэктурных сведкаў, і таму варта іх ведаць. Узгадаць пра Янку Купалу і Якуба Коласа, аддаць ім даніну памяці і пашаны можна не толькі на Вайсковых могілках у Мінску, дзе два сябры спяць вечным сном побач. Можна зайсці, прыкладам, у сквер з фантанам і ўявіць, як тут у летні дзень, слухаючы шэпт струменя, вялі гаворку Колас і Купала. Можна падысці да любога, засведчанага на здымках і захаванага будынка, і падумаць, што гадоў 65–70 назад тут дзівавалі на новабудоўлю аўтары «Паўлінкі» і «Дрыгвы». Бо шмат што звычнае нам сёння будавалася ў іх на вачах. Без разумення гэтай атмасферы даваеннага часу, калі шчыры энтузіязм і жах тэрору былі знітаваныя, немагчыма зразумець ні даўняе жыццё, ні тагачасных людзей, ні творчасць нашых народных паэтаў.

# любімых паэтаў



## У апошні вечар расставання

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай,
Жыццём вясны мае убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю.

Вось як цяпер, перада мною
Ўстае куточак той прыгожа,
Крынічкі вузенькае ложа
І елка ў пары з хваіною,
Абняўшысь цесна над вадою,
Як маладыя ў час кахання,
Ў апошні вечар расставання.

Люблю цябе, мой бераг родны,
Дзе льецца Нёман срэбна-водны,
Дубы дзе дружнай чарадою
Стаяць, як вежы, над вадою...
Мой родны кут, як ты мне мілы!
Забыць цябе не маю сілы,
Забыць цябе не маю сілы...



У гэтай мінскай турме адбываў пакаранне Якуб Колас

## Ноч

Што за ноч! Што за ціш!
Змоўклі травы, краскі.
Усплыў месячык на ўзвыш
Баяць свету казкі.
Неба слухае той сказ,
Хмаркі не схінуцца,
Толькі зоркі раз-параз
Ціха ўсміхнуцца.
Каб сказальніка свайго
Пахваліць як трэба,
Нават знічкі ў чэсць яго
Асвятляюць неба.
А ён, смутны вартаўнік
Цёмных шатаў ночы,
Засароміўся, і знік
Бляск яго сірочы.
Знік у рунях і ў шаўках
Хмарачак маўклівых,
І гусцей на зямлю злёг
Гэты змрок імглівы.



Гэты будынак да 1961 году стаяў насупраць Дома Ураду

## Каханне

Ці помніш ты, Ганна,
Шчаслівы мамент,
Як граў раз на дудцы
Нябожчык Вінцэнт?

А Нёман спакойна,
Спакойна дрыжаў,
І месячык ясны,
На нас пазіраў.

– Скажы мне, Ганулька,
Ці любіш мяне?
– Люблю, – ты сказала, –
Аж сэрца мне схне!

– Ганулька, Ганулька!
Павер, зразумей –
Я ў свеце не бачыў
Кахання шчырэй.

Ці помніш ты, Ганна,
Той светлы мамент,
Як граў раз на дудцы
Нябожчык Вінцэнт?

Будынак Дзяржаўнай бібліятэкі БССР, дзе часта бывалі Купала і Колас



Магілы Коласа і Купалы на Вайсковых могілках у Мінску

## *Мінск ці Менск незнаёмы*

Шмат якімі значнымі падзеямі ў культурным жыцці нашай краіны пазначаны год 2002. У іх шэрагу – выданне унікальнага гістарычна-дакументальнага фотаальбома «Мінск незнаёмы. 1920 – 1940», прэзентацыя якога адбылася днямі ў Таварыстве аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Аўтар-укладальнік Ілля Крукоў прапануе своеасаблівае фотападарожжа па Мінску – якога сёння ўжо няма – ад вакзала па вуліцы Савецкай (цяпер пр. Ф. Скарыны) да Усебеларускага стадыёна (раён Батанічнага сада) і па ўскраінах – Койданаўскі тракт, Ляхаўка, Кальварыя, Старажоўка. Дарэчы, сённяшні Мінск – горад новы, у якім помнікаў старажытнай забудовы захавалася вельмі мала. Ён быў моцна разбураны падчас Другой сусветнай вайны. Не менш пацярпеў і пасля, калі па рашэнні гарадскіх уладаў былі фактычна зруйнаваныя цэлыя старажытныя раёны, знікла Няміга, не стала былых вуліц і гістарычных забудоў. Цяжка знайсці адмеціны 1000-гадовай гісторыі. Ілля Крукоў дае нам магчымасць зрабіць экскурсію па горадзе, які памятаюць толькі старажылы. Фотапанараму сталіцы 30-х гадоў у альбоме ўдала дапаўняюць цікавыя нататкі аўтара пра былую рэчаіснасць і рарытэтнае выданне «Спадарожнік па Менску» 1930 года, у якім захаваны правапіс арыгінала ды тагачасная арфаграфія. Тут цікавыя звесткі пра змененыя назвы вуліц і плошчаў (Юраўская – Камуністычная, Петраградская – Ленінградская, Нямецкая – Лібкнэхта, Багадзельная – Камсамольская, Белацаркоўная – Чырвонаштандартная, Койданаўская – Рэвалюцыйная); школы, мова навучання якіх адпавядала – у тыя савецкія часы – складу насельніцтва: беларускія (20), яўрэйскія (8), расейскія (3), польскія (2) ды шмат іншага. Змешчана таксама ваенна-тапаграфічная карта Мінска і наваколля. Усё гэта дае магчымасць стварыць візуальны вобраз, уявіць рэальную карціну гарадскога жыцця.

Удзельнікі прэзентацыі далі высокую ацэнку альбому. Адзначалася, што Ілля Крукоў упершыню ўвёў у навуковы ўжытак цэлы пласт нашай гісторыі, што гэта першая унікальная кніга па гісторыі беларускага канструктывізму. Аднак, як слушна заўважыў гісторык Алег Трусаў, мы ўсё-такі атрымалі выданне не па гісторыі Мінска, а Менска. Менавіта такі назоў меў горад ад пачатку яго заснавання і ў перыяд з 1918 па 1938 гады. Навукоўцы з болем гаварылі і пра тое, што наша сталіца не мае аніводнага гарадскога музея. У той час як да рэвалюцыі ў Мінску было некалькі музеяў гарадскога падпарадкавання.

Фотаальбом «Мінск незнаёмы» – гэта і значны ўнёсак у гістарычную навуку, і добры вучэбны дапаможнік, і падарунак для тых, хто любіць і хоча ведаць свой горад, сваю гісторыю.

***Запытвайце альбом у кнігарнях.***

**Ірына Ляксеева**

Эрнэст ЯЛУГІН



# Папярэджанне

## Урывак з дэтэктыўнага рамана «Алжырская пастка»

**Паставіў апошнюю кропку ў новым рамане, над якім працаваў тры з лішкам гады. Па сутнасці, гэта завяршэнне, мяркую, тэма, якая калісьці, у сямідзесятыя гады, пачалася для мяне раманам «Астравы» – пра тое, як беларускі хлопец усталёўваецца ў Алжыры. Спачатку ў складзе студэнцкага будаўнічага атрада, затым – па кантракце ў якасці тэхнічнага спецыяліста па трактарах. Едзе ў замежную камандзіроўку пераможцам, з маладой жонкай з асяродка вышэйшай дзяржаўнай наменклатуры, поўны радасных амбіцыйных планаў, не ўяўляючы, як давядзецца вяртацца: з параненым вокам і ... без жонкі, якая скарыстала магчымасць застацца на Захадзе. Герой рамана, Маркевіч, ачуняўшы, потым спрабуе жонку адшукаць. Безвынікова. Пра тое быў наступны твор – аповесць «Год-другі ў Алжыры».**

**І вось нечакана нават для мяне, аўтара, ужо ў сённяшні час алжырскія «грахі» Маркевіча нагадалі аб сабе самым непрыемным, дакладней – трагічным чынам.**

**Аднойчы Маркевіч зразумеў, што па нейкіх прычынах апынуўся ў «зоне павышанай увагі» добра арганізаванай і бязлітаснай сілы. Але што яна такое і як ратавацца? Зачыненыя на сучасны замок дзверы ўласнай кватэры ёй не перашкода. Некуды неадкладна збегчы? Відаць, не ўдасца. Рабіць тое, што загадаюць, зміырыцца? Ці перці «на ражон», каб хаця б дазнацца, чаму яго выбралі? А заадно паспрабаваць абараніць блізкіх ды адпомсціць за знявагі, за пачуццё мярзотнай прыніжанасці і страху.**

**Раман я абазначыў як гістарычны і крымінальны...**

***Аўтар***

### 1

...Сказаў Хорсіку, што ненадоўга адлучыцца, і спусціўся ў вестыбюль. Давялося хвілін з пяць міжволі слухаць, як шызашчокая латошніца дамаўлялася з хахалем аб сустрэчы, бо менавіта гэты тэлефон-аўтамат яны з Хорсікам «прывучылі» працаваць «пры камунізме», без магнітнай карткі. Шызашчокую ўважліва слухалі гандляркі яшчэ двух латкоў. Каля параднай лесвіцы вясёлыя, відаць, на падпітку хлопцы ўвішна ставілі металічную будку абменнага пункту валюты – начальства «скрыні» хоць у гэтым плане спрыяла развіццю рынкавай эканомікі, здаючы ў арэнду жылплошчу.

Нарэшце Маркевіч пераняў у задаволенай жыццём паўнацелай маладзіцы тэлефонную трубку. Прарабіўшы няхітрыя маніпуляцыі з вузкай металічнай пласцінкай, набраў нумар.

– Нарэшце, – сказала аднекуль здалёк Лінда. – А то ў мяне застаецца толькі чвэрць гадзіны.

– Гледзячы дзеля чаго, – паспрабаваў пажартаваць Маркевіч. – Што за канспірацыя? Калі я табе патрэбны, адразу імчу.

– Зноў за сваё. Юра, ты мне не патрэбны і не вінен, я сказала даўно, – адазвалася Лінда з нейкай трывожнай напружанасцю ў голасе .– Чаму тэлефаную... Можаш сёння не начаваць дома? А лепей бы ўвогуле з'ехаць з Мінску. Ну, відаць, дзён на пяць-шэсць, хутчэй на дзесяць. Са службы адпусцяць?

– Хоць назаўсёды, – рагатнуў Маркевіч заінтрыгаваны. – Ва ўсялякім разе, пакуль начальства не прыдумае, як аднавіць Савецкі Саюз. Ці стварыць які-небудзь новы. Але растлумач...

– Ты мне верыш? – перапыніла Лінда.

– Болей, чым самаму сабе. Міліцыя на мяне бочку ці як?

– Не ведаю, што ў цябе там з міліцыяй ... Праз дзесяць дзён я табе зноў патэлефаную. Лепей на службу.

– Вось так узяць і знікнуць? А дадому можна зайсці? – Ведаючы Лінду, ён нават уявіць не мог, што яна з нейкай прычыны ўздумала яго разыграць.

– Лепей не трэба.

– Ну і ну... Тады паспрабую махнуць чаўнаком у Польшчу. А то ў Турцыю. Ты толькі скажы...

Але на другім канцы пачуліся сігналы адбою.

– Звар'яцела яна там? – прамармытаў Маркевіч, утаропіўшыся ў тэлефонны апарат. Так... Лінда працуе нейкім клеркам ажно ці не ў абласным аддзеле КДБ, але, канешне, не страціла ранейшыя сувязі з пракуратураю. Малаверагодна, каб ім зацікавілася дзяржбяспека. З якой нагоды? З-за таго, што ў свой час двойчы пабываў у Алжыры ці таму што ездзіў «чаўнаком» у Турцыю і быў тры разы ў Польшчы. Ды сотні людзей такое робяць, а то і тысячы. Праўда, не ўсе працуюць у «скрынях». Але іхняя «скрыня» і раней не была ў ліку самых сакрэтных, а цяпер увогуле даўно не мела ніводнага заказу для «абаронкі». Яе церпяць наверсе таму, што працягваюцца гульні ў рэанімацыю СССР, а ў дадатак у шэфа засталіся старыя сувязі з босамі расійскага ваеннапрамысловага комплексу, у тым ліку і ў Маскве. Так... Тады што? Застаецца хіба ягоны арышт (ці «затрыманне», як гэта называлася ў пратаколе) у часе апазіцыйнай дэманстрацыі? Выпадак недарэчны, на самой справе ён фармальна дэманстрантам не быў. Але суддзя яго нават не слухаў, толькі з пагардай зірнуў на крывавы рубец упоперак ілба да патыліцы ад удару гумавай дубінкай. На прапанову агледзець сінякі на грудзях, у вобласці нырак, на хрыбетніку, плячах і нагах грэбліва скрывіўся і тут жа абвесціў вырак: пятнаццаць сутак арышту і штраф у дзве мінімальныя зарплаты. Калі Маркевіч паспрабаваў пратэставаць, суддзя з ранейшай цынічнай усмешачкай паабяцаў вярнуцца да ягонай справы і дабавіць. Рыта атрымала трое сутак, Зоя – суткі і штраф, праўда, даволі сімвалічны.

Маркевіч заўважыў, што ягоны, мабыць, утрапёны выгляд пачаў цікавіць латошніц, і разам з купкай супрацоўнікаў нетаропка выйшаў на вуліцу ў халодную імжу. Праспект Скарыны нагадваў мутную пратоку, ахутаныя пырскамі машыны імчалі з уключанымі фарамі. Накідваючы на галаву капюшон курткі, зірнуў на акно свайго аддзела – падалося, там мільганула постаць Хорсіка. Да канца рабочага дня заставалася гадзіны паўтары, вяртацца ён не будзе, у выпадку якой нечаканай праверкі, малаверагоднай, Хорсік прыкрые, цяперашняя крыўда ў такой справе не мае значэння. У Хорсіка можна і пераначаваць, калі ён вырашыць, што да парады Лінды трэба паставіцца сур'ёзна.

Але каго і чаго, чорт вазьмі, асцерагацца? Усё ж, сама верагодна, маглі зноў успомніць яму тую маніфестацыю. Бо не змаўчаў, калі яго выпусцілі з-за кратаў, а карэспандэнт радыёстанцыі «Свабода» ля турэмнай брамы папрасіў падзяліцца ўражаннямі ў мікрафон. Ну вось, цяпер яго, магчыма, успомнілі і вырашылі ўпіхнуць у які чарговы паказальны працэс над апазіцыянерамі. Так ужо здаралася, калі раптам цягнулі ў суд за ўдзел у акцыях пратэсту, што адбываліся паўгода ці болей таму назад. Каб у людзей, што адважыліся на пратэст, пастаянна сядзеў страх: вось аднойчы цябе прыйдуць і схопяць. Прафесара-фізіка ўвогуле асудзілі завочна, ён даведаўся пра тое, калі на яго абрынулася «зграя захопу». Заламілі рукі, начапілі кайданкі, пацягнулі.

Ладна. А што ў такім разе гаварыць на допыце? Ніякага дачынення да Фронту не мае? Не пеевераць ці зробяць гэткі выгляд, а прагучыць непрыгожа: дэмакратычная публіка спрэс спачувае БНФ, хоць іншым разам і бянтэжыцца ягонымі дзеяннямі. Яно зразумела: не прывыклі беларусы да грамадзянскай рашучасці. Сказаць: проста ішоў побач па тратуары, бо ў калоне дэманстрантаў была знаёмая дзяўчына, непакоіўся за яе і цікава было station паназіраць, бо, ведаючы яе рахманы характар, нават не ўяўляў тую ў якасці мітынгоўшчыцы? Практычна так і было, але не паверыць, а галоўнае – прагучыць ужо зусім брыдка. Ды было б перад кім апраўдвацца! Немагчыма будзе і сказаць, што ён увогуле раўнадушны да дэманстрацый і мітынгаў беларускіх бедакоў-нацыяналаў – асноўная ж маса народа заўзята галасуе за былых камуністычных начальнікаў, за ўласнае рабства. Хочуць жыць у хляве? Ну і няхай там таўкуцца, пакуль не паразумнеюць, і не скуголяць ад свайго жабрацтва. І чаму тады тая ж Зоя павінна падстаўляць галаву пад дубінкі.

Яшчэ мог бы сказаць – заграблі памылкова. Ён жа сапраўды стаяў на тратуары ля кафэ «На ростанях» і дзівіўся на Зою, якая разам з Рытай несла вялікі плакат з заклікам «Беларусь – у Эўропу!» Увогуле ў калоне панавала амаль святочная прыўзнятасць, хаця зусім блізка бура-зялёнай анакондай змрочна-пагрозліва варушылася маса спецвойскаў, час ад часу грукаючы дубінкамі ў вялікія шчыты. Маркевіч дзівіўся на дэманстрантаў – на тварах людзей былі не адчай і азлобленасць ад жыцця, да якога іх давяла ўлада, а вясёлая рашучасць выказаць грамадству сваю праўду. Яны ішлі і ішлі міма, з'яднаныя і натхнёныя сваёй ідэяй, у нечым не зусім зразумелай і прымальнай для яго, яле ж не агрэсіўнай, і ў нейкае імгненне Маркевіч адчуў сваю адзіноту, што паціху неасэнсавана рушыў следам за дэманстрантамі, імкнучыся не ўпусціць з поля зроку Зою. Тады ўсё і здарылася. Блізка ля перакрыжавання праспекта Скарыны з Даўгабродскай здаравенныя амбалы ў скураных куртках выскачылі з-за спінаў міліцэйскага кардону і, груба схапіўшы Зою, якая цяпер трымала трансparанцік з выявай Пагоні, пацягнулі ў падземны пераход. За сяброўку ўчапілася Рыта і затым нейкая пажылая жанчына, усчаўся лямант. Маркевіч нават не заўважыў, як апынуўся на месцы здарэння. Відаць, тады, калі высокі дзяцюк у шыкоўнай скуранцы схапіў Зою за яе прыгожыя валасы, сарваўшы і грэбліва кінуўшы пад ногі шоўкавую бела-чырвона-белую стужку. Адразу ж туды падбегла з паўтузіна дзецюкоў у плямістай форме.

– Рабяты, – сказаў Маркевіч, аддыхваючыся, – не рабіце падлянкі, не чапайце дзяўчат.

Вось тады амбал у скуранцы нечакана і ўрэзаў яму ў жывот, крыху ніжэй сонечнага спляцення. Удар проста-такі рассек яго напалам і ператварыў, падумалася, у фарш усе вантробы. Маркевіч раззявіў рот, хапіўшы паветра, замычаў, хіснуўся асядаючы, убок і ўжо чыста па-звярынаму, інтуітыўна заўважыў, што і рука дзябёлага амапаўца сашчэпліваецца ў кулак, які праз імгненне садане яму ў пераносіцу, зрабіўшы з твару крывавае месіва. «Мае вочы!» – ліхаманкава мільганула думка, і Маркевіч зноў жа інстынктыўна хіснуўся да амапаўца, саўгануў падпахі яму свае рукі, перадплечамі адводзячы ўдары, і нібы да любага брата прыціснуў твар да потнай скроні, пад каску. Маркевіча нехта адразу ж схапіў ззаду за каўнер, рэзка адцягваючы і душачы, і ён аўтаматычна, каб не падстаўляць твар пад удары, зубамі ўчапіўшыся ў раменчык каскі амапаўца, прыхапіўшы, як аказалася, і частку вуха «ахоўніка грамадскага парадку».

– Не трожь его!



Фота У. Шлапак

Не трожь! – нечакана абараняючы Маркевіча, фальцэтам закрычаў амапавец, спалохаўшыся застацца без вуха.

У наступную хвіліну Маркевіча апякла сляпучая маланка, і ачнуўся ён ўжо толькі на жалезнай падлозе амапаўскага аўтобуса, лежачы тварам уніз, з адчуваннем, што цела ягонае разарванае на кавалкі, кожны з якіх пякельна смыліць. На ім аказаліся наваленыя яшчэ чалавечыя целы. Жывыя ці мёртвыя? Ён не ўяўляў, чым усё там скончылася, ля плошчы Перамогі. Адно бясспрэчна – ён прайграў. Адчуўшы, што задыхаецца, ён з ціхім стогнам паспрабаваў прыўзняць галаву, але атрымаў ўдар па патыліцы, якая і без таго раскалвалася ад болю. Боль увогуле стаў нясцерпным, бо нехта бязлітасна прыціснуў яго галаву ботам. Маркевіч пачаў правальвацца ў цёмную бездань нябыту, і ў гэтым была такая палёгка, што ледзьве хапіла моцы загадаць сабе: туды не хачу, не жадаю – і следам стала нараджацца нянавісць, ад чаго таксама, аказваецца, адступаў боль і нарастала прага выжыць. Ён выплываў з глыбіні цёмнага нябыту і да яго стаў вяртацца слых. Вельмі знаёмы голас прама над ім мякка папрасіў:

– Не чапайце яго болей, богам прашу, ён перанёс аперацыю на вачах і можа аслепнуць, а тады вы будзеце плаціць яму пенсію.

– Пенсию?! Да мы его сейчас, фашиста этого, прибьём и выкинем! Пенсию! Слыхали? – следам разануў вушы гучны вясёлы рогат:

– Га-га-га! – Рогат маладых пераможцаў. А да ягонай патыліцы лёгка дакрануліся гаючыя рукі – жаночыя, падказала інтуіцыя, – потым закапала гарачая вільгаць, сцякаючы яму на шчаку і трапляючы на асмяглыя губы. «Салёная, – мільганула думка. – Кроў ці слёзы?»

Мужчынскі пагрозлівы, бязлітасны лямант:

– Отстань от него, сука бэнээфовская! Ну!

Зоя! Яе ўдарылі? Тут прытомнасць зноў пакінула яго, даючы палёгку і насычанаму вострым болем целу, але ў бездань нябыту ўжо не цягнула.

Так... Ці маглі б яму зноў нагадаць эпізод «дзёрскага нападу», як адзначана ў міліцэйскім пратаколе, на «законнага прадстаўніка аховы грамадскага парадку»? Чаму б не, калі спатрэбіцца. Зручная падстава. У Лінды трэба было дазнацца нейкай канкрэтыкі. Чаму гэтага пазбегла? Сама нечага баялася?

## 2.





фота С.Грыца, У.Шлапака

Маркевіч уціснуўся ў тралейбус і раптам сцяміў, што неасэнсавана імкнецца дадому. На гэтым маршруце, у адрозненне ад пераважнай большасці ліній, вадзіцелі працягвалі ўпарта рабіць аб'явы на беларускай мове. Вырашыў: калі цяпер раптам аб'ява прагучыць па-расійску, вернецца на працу, заначуе ў Хорсіка, а ў суботу яны паедуць у Валожынскі раён гандляваць заходнееўрапейскімі шмоткамі «сэканд-хэнд». Ліндзе сказаў, што падасца ў Польшчу. А навошта ёй дакладна ведаць? Адмяняецца. Усё, заробак «чаўнака» больш не для яго. Надрывацца, цягнуць торбы вагой пад цэнтнер праз граніцу і плаціць кожнаму злыдню ў форме. А потым млець са сваім барахлом у спёку і холад, з нянавісцю бездапаможнага чакаючы, што вось падыдзе рэкецір і з усмешачкай пацікавіцца, каму ты плаціш «за ахову». І ніхто не заступіцца, лепей не скардзіцца. Пара, пара ў эміграцыю. Едуць жа іншыя. Пераважная большасць перспектыўных спецыялістаў ва ўзросце да 45 гадоў, якія хоць неяк валодаюць англійскай мовай, ці з'ехалі, ці сядзяць на чамаданах. Некаму пашанцавала з Германіяй, хоць і свайго народу не хапае. Зусім безнадзейныя пруць у Расію. А ён жа, пастараўшыся, канешне, мог бы разлічваць на прапіску ў Маскве. Вось Хорсік дык, можа, і рады б туды падацца, але ж сын алергік. А зараз з-за сваёй ўпартасці змайстраваў, аказваецца, яшчэ нашчадка. Ну калі ўжо прырода папярэдзіла: са здароўем дзетак у цябе будуць праблемы... Не, трэба, пакуль зусім не састарыўся, паспрабаваць падацца за мяжу... У Аўстралію? Туды ёсць шанцы. Потым перацягнуў бы неяк Зою... Так... Але чаго зараз яму прапанавана фактычна туляцца? З Ліндай трэба сустрэцца...

Аб'ява ў тралейбусе звычайна прагучала па-беларуску і Маркевіч са здзіўленнем-павагай падумаў пра невядомых вадзіцеляў: упартыя. Нягледзячы, магчыма, на чаканне непрыемнасцей ад начальства, якое таксама жыве пад страхам.

Значыць, дадому. Асцярожна там агледзецца, не трэба кідацца ў паніку немаведама з-за чаго.

Перш чым падысці да свайго пад'езда, паназіраў з розных ракурсаў, стараючыся не высоўвацца на адкрытыя месцы. Здаецца, усё як заўсёды: барадаты мужык у ботах з кароткімі халяўкамі і надзетай на тоўсты світар а-ля Хэмінгуэй вайсковай вятроўцы выгульваў магутную ўсходнесібірскую лайку і паслухмяна торгаўся за ёй ад аднаго дрэва да другога. Шпацыравалі дзве кульгавыя кабеты, ведучы размову, тэмп якой рэзка кантраставаў з іхняй хадой. На пляскатым даху будкі электрападстанцыі групка малалетак, нягледзячы на дождж, «лавіла кайф», слухаючы дзіўную музыку і ашалела торгаючыся. Нідзе ніхто падазрона не стаіўся.

Маркевіч тым не меней з-за вугла імкліва нырнуў пад шырачэзны куст бэзу і адтуль праслізнуў у пад'езд. Таксама нікога. Ліфт, праўда, не працаваў. Але днём так здаралася не аднойчы. Магчыма, на пульце ў ЖЭС так рабілі, каб сэканоміць, пакуль працоўнае насельніцтва не пачне вяртацца дадому. Ён з'явіўся раней, значыць, да свайго сёмага паверха давядзецца тупаць пешкі. Ну і «водар»! Набраў у грудзі як мага паветра і паімчаў па прыступках.

Толькі на сваім паверсе заскочыў на агульны адкрыты балкон перад ліфтавай пляцоўкай, каб удыхнуць свежага паветра. «Ха-а-а...» Хутчэй ачысціць лёгкія ад ліпучага смуроду. «Ха-а-а...» Прыбіральшчыцы ў іх доме мяняюцца ці не кожны месяц. Нават не высоўваючы носа са сваёй «палутаркі», можна даведацца пра гэта з маналогаў у агульным калідоры...

Калі ж смурод нарэшце дапаўзаў да сярэдняга, «палепшанага» пад'езда, дзе месцілася некалькі сем'яў адстаўных генералаў і палкоўнікаў з Міністэрства абароны з паўтузінам былых клеркаў з гаркама кампартыі, якія дзіўным чынам захавалі ўплыў на цяперашнія ўлады горада, з домакіраўніцтва з'яўлялася гаманлівая брыгада рашучых цётак нападпітку. Арудуючы рыдлёўкамі, саўкамі і мётламі, яны з мацюкамі і гучнай гаманой скраблі, чысцілі, мылі... А праз ноч-другую ўсё пачынала выглядаць па-ранейшаму. Маркевіч ведаў: так паўсюдна, асабліва ў шматпавярховых гмахах-панельках...

Зазірнуў у цёмны калідор... Нікога. Замок у дзвярах звычайна дзейнічаў бездакорна, але на гэты раз не адразу ўладкаваўся ў скважыне. Што значыць, стаіўшы дыханне, праімчаць угару сем паверхаў.

## 3.

Звычайна накідваючы ахоўны ланцужок, пачуў, як грукнулі дзверы ў суседзяў – нехта выйшаў. У той жа момант скурай адчуў – у кватэры ён не адзін. Сціскаючы ў кулаку ключы, прыўзняў локці і рэзка павярнуўся – не, як быццам нікога. Што за містыка? Абвостраны слых выразней, чым звычайны, улавіў – на кухні з крана капае вада. Трэба нарэшце памяняць пракладку. А ўсё ж у кватэры нешта перамянілася. Пах? Прымусіў сябе расслабіцца, прынюхаўся... Вось яно: ноздры казытнуў ледзь-ледзь адчувальны чужы пах – цыгарэтнага дыму ў сумесі з дэзадарантам, які ён не стаў бы ўжываць, бо не трываў яго густы водар. Не інакш City-men, вырашыў, зноў прынюхаўшыся. А яшчэ, здаецца, пах чужога поту! Мужчынскага.

Зробім папярэдні падрахунак, загадаў сабе. Ключ ад кватэры ён калісьці даў Зосі. Праўда, яна ўжо даўнавата не наведвалася. А вось «Сіці-мэн» яны ў аддзеле падарылі Хорсіку тыдні са два таму на дзень нараджэння – каб імяніннік займеў, па словах Алы Казіміраўны, «водар «сапраўднага мужчыны-бізнесмена». Сёння з дзесяці раніцы амаль да поўдня Зоі і Хорсіка не было ў аддзеле. З'явіліся з задаволеным выглядам: Хорсік паведаміў, што іхні праект з ухвалай прайшоў першы тур на атрыманне амерыканскага гранту. У выпадку перамогі свеціць паездка ў Гарвард. Яны заходзілі сюды? Малаверагодна. Да таго ж пахла менавіта зусім чужым, інакш не было б такога абвостранага адчування трывогі.

Ажно здрыгануўся, калі за спінай затрэнькаў тэлефон.

– Алё, – мармытнуў у трубку, кашлянуў і дадаў па-старэчы: – Слухаем.

– Кватэра таварыша Маркевіча? – спытаў напорысты жаночы голас з нейкай яшчэ савецкай інтанацыяй.

– Што перадаць? – прасіпеў Маркевіч і зноў кашлянуў.

– Браніслаў Антонавіч трапіў у кардыялогію і просіць таварыша Маркевіча яго наведаць, – голас у трубцы гучаў упэўнена і, чорт пабяры! у ім момантамі ўлоўлівалася нейкая знаёмая мадуляцыя.

– У кардыялогіі – гэта дзе? – спытаў Маркевіч, ліхаманкава прыпамінаючы, хто б гэта мог быць, той Браніслаў Антонавіч.

Стары корпус лечкамісіі, трэці паверх, дзяжурная пакажа, – без ценю нецярплівасці растлумачылі яму. І тут слова «лечкамісія» дапамагло раптам дапяць, хто яго запрашае. «Цесць». Маркевіч па-ранейшаму для сябе так называў яго, калі ўспамінаў. Праўда, нячаста.

– Нешта сур'ёзнае? – спытаў ужо з занепакоенасцю, хоць адначасна і з цікаўнасцю: чаму голас яму нечым здаецца знаёмым. Нягледзячы ні на што, ён ставіўся да «цесця» прыязна. Ды і Браніслаў Антонавіч колькі разоў выказваў да яго амаль ці не роднасныя пачуцці. Рыма Аркадзеўна, «цешча», вось тая да канца сваіх дзён успрымала Маркевіча падкрэслена варожа.

– Вельмі сур'ёзна, – пачулася ў адказ. – Інфаркт. Так што асабліва яго пры сустрэчы не стамляйце.

– А калі можна...

– У такіх выпадках у нас кажуць: лепей цяпер, чым к вечару, – жанчына сказала гэта з адценнем таго гумару фаталістаў, які звычайна бытуе сярод медыкаў, і паклала трубку. Гэта таксама адпавядала звычкам медыкаў, і Маркевіч перастаў успамінаць, ці сапраўды пачулася яму ў голасе нешта знаёмае. Магчыма, але якая цяпер розніца? Ладна, усё роўна трэба адсюль «ліняць», калі верыць Ліндзе.

Па-ранейшаму імжэў дождж. Маркевіч вырашыў дабірацца на сваёй машыне, каб не мокнуць лішне на тралейбусных прыпынках. Заадно і машыну потым перагоніць пад акно да Хорсіка.

Адчыняючы дзверцы «запора», як ён следам за іншымі прывык называць свой «ЗАЗ-9668», яшчэ раз азірнуўся па баках. Нічога падазронага. Матор завёўся паслухмяна. Але, ну проста містыка нейкая! Як толькі зачыніў дзверцу, адразу выразна адчуў чужы пах...

# Фартуна Тадэвуша

Кастусь ТАРАСАЎ

Згодна з паданнем, калі 4 лютага 1746 году ў маёнтку Мерачоўшчына ў мядзведжым куце Брэсцкага ваяводства нарадзіўся будучы нацыянальны герой трох народаў, вязень Петрапаўлаўскай цвержы і ганаровы грамадзянін ЗША, ягоны бацька быў у ад'ездзе, і маці, Тэкля Ратомская, якая трымалася праваслаўя, паспяшалася ахрысціць сына, назваўшы Андрэем. Па вяртанні бацька, які трымаўся каталіцтва, разлютаваўся і павёз сына перахрышчваць у Косаўскі касцёл, адкуль ён вярнуўся Тадэвушам Банавентурай. Магчыма гэтыя два хрышчы і прадвызначылі Андрэю Тадэвушу Банавентуры Касцюшку даўгі век і частую залежнасць лёсу ад чужой волі.

Ягоны прапрадзед імем Канстанцін быў натарыем (складальнікам дыпламатычных дакументаў) вялікага князя Жыгімонта Старога. Князь любіў яго і пяшчотна называў Касцюшка, што і стала радавым прозвішчам. Праз шлюб з дачкой князя Гальшанскага Канстанцін парадніўся з каралеўскай дынастыяй Ягайлавічаў. Гэта аздобіла генеалагічнае дрэва роду, аднак вышэй за павятовыя пасады ніхто з Касцюшак да Тадэвуша і пасля яго не ўздымаўся.

### Першая ўдача

Дзевятнаццаці гадоў Касцюшка паступіў у Варшаўскі кадэцкі корпус, дзе спецыялізаваўся па фартыфікацыі. Прыяцелі далі яму мянушку «Швед з-пад Брэсту», бо падобна шведскаму каралю Карлу XII ён падымаўся а чацвёртай гадзіне і, каб прагнаць сон, апускаў ногі ў бадзейку з вадой, якую ўвечары ставіў каля ложка. Яшчэ засведчана калегамі па вучобе, што Тадэвуш быў забіяка, дуэлянт, з навукаў любіў тапаграфію і малюнак, а пры заканчэнні корпусу атрымаў разам з капітанскімі пагонамі стыпендыю для пяцігадовага навучання ў Парыжы.

Вынікамі творчасці першых панегірыстаў Касцюшкі стаў міф, што ён вучыўся ў Парыжскай каралеўскай Акадэміі мастацтваў, быў заўсядатарам знакамітых салонаў, сябрам слынных рэспубліканцаў, падарожнікам па галандскіх мястэчках і да т. п. Аналіз фінансавых магчымасцяў Касцюшкі, які здзейснілі рацыянальныя даследнікі, дае карціну зусім іншага існавання маладзёна. Адбываючы ў Парыж, Тадэвуш Касцюшка меў 213 залатых стыпендыі і яшчэ 400 яму даў старэйшы брат. Гэта былі занадта мізэрныя грошы, каб весці свецкае жыццё, здымаць прыстойны пакой ды модна апранацца. Ніводзін з вядомых партрэтаў Касцюшкі таго часу не адлюстраваў яго ў парыку, даўгія, па плечы валасы Касцюшкі сучаснікі справядліва ўспрымалі як неаспрэчнае сведчанне беднасці. Менавіта ў тое пяцігоддзе ў Францыі з-за недародаў падскочыў кошт хлеба, пачалася інфляцыя, французскім снядкам сталі булачка і кава, а парыжская звычка гадзінамі сядзець у кафэ склалася таму, што ўздаражэлі дровы, і гаражане лічылі выгаднейшым грэцца ў кафэ, чым таліць печы ва ўласных дамах.

Капітан Касцюшка, як высвятлілі ваенныя гісторыкі, вывучаў сапёрныя навукі ў ваеннай школе Мерсэр пры Луўры, практыкаваўся ў галандскіх фортыфікатараў, а клас малюнку Каралеўскай акадэміі наведаў некалькі разоў. Вось у афіцэрскіх колах, а не сярод артыстычнай моладзі, Касцюшка і знайшоў блізкіх прыяцеляў.

### Асабістая няўдача

Па вяртанні на радзіму капітан, хоць мог адразу атрымаць месца ў Корпусе артылерыі, амаль на год завязнуў у радавым маёнтку Сехновічы абшарам 2500 гектараў у Брэсцкім ваяводстве не надта далёка ад Кобрына.

Падстава аднак была паважлівая – 27-гадовы Тадэвуш палка закахаўся ў 19-гадовую Людвіку Сасноўскую, дачку ўплывовага магната, гетмана польнага літоўскага. Радавы маёнтак ваяводы Сасновіцы суседнічаў з Сехновічамі, і Сасноўскі запрасіў Касцюшку настаўнікам французскай мовы для сваёй дачкі. У выніку склаўся мальераўскі сюжэт: закаханы з'яўляецца ў доме каханай у касцюме настаўніка музыкі і спеваў. Касцюшка пераапрануўся ў настаўніка малявання і французскай мовы, хоць мог выкладаць дзяўчыне і музыку – вядомыя болей за тузін напісаных ім паланезаў.


Тадэвуш Касцюшка і Людвіка Сасноўская. Мініяцюры канца XVIII ст.

Маладыя людзі пазнаёміліся ў траўні, а ў верасні Касцюшка насмеліўся прасіць у ваяводы руку ягонай дачкі. Раз'юшаны гэтакай «дзёрзкасцю» Сасноўскі загадаў яму неадкладна пакінуць сядзібу. Ваявода азліўся на Касцюшку не толькі за вадзвільны падман, які ператвараў яго ў аб'ект насмешак і кпінаў на ўсё жыццё. Шлюб Людвікі з Касцюшкам прынёс бы яму вялізныя фінансавыя страты. Незадоўга перад тым Сасноўскі, гуляючы ў карты з князем Любамірскім, прайграў яму трэціну сваіх уладанняў. Вярнуць страты ваявода мог, аддаўшы дачку за сына Любамірскага, пра што старыя гулякі паспелі дамовіцца.

Калі б Касцюшка пагадзіўся са стратай каханай, як пагаджаліся тысячы тысяч да і пасля яго, жыццё яго пакацілася б далей сціплай калянінай сапёрнага афіцэра. Упартасць падштурхнула яго да радыкальных дзеянняў. Ён прапануе Людвіцы стаць з ім пад вянец супроць бацькоўскай волі, і каханая дае згоду. Тадэвуш дамаўляецца з ксяндзом, збірае вясельную дружыну сяброў, але робіць недаравальную памылку – дзеліцца сваімі намерамі з каралём Станіславам Аўгустам. Кароль яму здраджвае, паведамляючы davеранаю таямніцу Сасноўскаму. Прызначанай ноччу Касцюшка пад'язджае да сасновіцкага парку. Яму здаецца, што лічаныя хвіліны аддзяляюць яго ад удачы жыцця. Але замест каханай з парку выносіцца атрад гайдукаў Сасноўскага, і вясельная задума абарочваецца сутычкай і рэтырадай няўдачлівага выкрадальніка. Сасноўскі аб'яўляе, што прыцягне Касцюшку да суду за спробу выкрасці дачку. Закон Вялікага княства Літоўскага прадугледжваў за такое злачынства пакаранне смерцю.

### Удача ў Амерыцы

Напужаныя сваякі сабралі Тадэвушу 80 дукатаў на ўцёкі, і няшчасны конна панёсся за межы краіны, каб не пакласці галаву на калоду. Знаёмая дарога прывяла яго ў Парыж. Хутка ўцякач застаўся без сродкаў. Разлічваць на дапамогу родных не даводзілася, а ў французскім войску для яго не было месца. Выратавальнае выйсце адкрываў удзел у вайне, якую ў траўні 1775 году пачалі Амерыканскія штаты за вызваленне з-пад англійскага кіравання. Францыя як гістарычны праціўнік Брытаніі прыняла бок мяцежных штатаў. Англія ваявала ў Амерыцы не толькі ўласнымі войскамі. Нямецкія князі прадалі Англіі за 5 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў для экспедыцыі за акіян 30 тысяч салдат. Францыя не пастаўляла салдат у Новы Свет, але пасылала туды афіцэраў-валанцёраў і аплочвала вайну. У перакладзе на сучасныя цэны Францыя выдаткавала на вайну ў Амерыцы 3 мільярды даляраў, у той час як выдаткі саміх Амерыканскіх штатаў склалі 1 мільярд. Пасутнасці, вайну выйгралі французскія грошы і наняты Францыяй афіцэрскі корпус.

Вось такім валанцёрам Тадэвуш Касцюшка і вырушыў у Новы Свет змагацца за рэспубліканскія ідэалы і незалежнасць чужой краіны. Наўрад ці ў яго біяграфіі аказаўся б амерыканскі перыяд, калі б не меў Сасноўскі жадання ўбачыць яго ў бязлітасных руках ката.

18 кастрычніка 1776 году Касцюшка атрымаў патэнт палкоўніка-інжынера амерыканскай арміі. Ён забяспечыў выдатнымі фартыфікацыямі Саратогу на рацэ Гудзон, што дазволіла амерыканцам атрымаць істотную перамогу ў бітве – пад


Сядзіба ў Мерачоўшчыне, дзе нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка. Малюнак з XIX ст.


Касцюшка на кані

# Касцюшкі


Тут да 1943 году стаяла былая сядзіба Касцюшак

Саратогай у палон здаліся 6 тысяч англічан, у сувязі з чым Францыя вырашыла прызнаць Злучаныя Штаты. Галоўны начальнік рэспубліканскай арміі Джордж Вашынгтон даверыў Касцюшку будаўніцтва цвержы Вест-Пойнт, на поўнач ад Нью-Ёрку. Тут за два з паловай гады Касцюшка па ўласным праекце ўзвёў цытадэль, чатыры форты і сем рэдутаў. Вест-Пойнт была самай моцнай цвержай Амерыкі. Англічане не наважыліся штурмаваць яе і наогул падымацца ўверх па Гудзону – рака на ўсю шырыню (450 метраў) была перагароджана жалезным ланцугом, спецыяльна сканструяваным Касцюшкам. У 1802 годзе ў Вест-Пойнце была адкрыта Ваенная Акадэмія ЗША і пастаўлены помнік стваральніку цвержы. Гэтага Касцюшку і сёння вітаюць аддданнем гонару вест-пойнцкія курсанты.

Сваю ваенную эпапею ў Амерыцы Касцюшка завяршыў удзелам у бітве за Чарльстон у Паўднёвай Караліне. Кангрэс надаў яму званне брыгаднага генерала і правы на атрыманне 12.800 даляраў. Сума значная, калі ведаць, што Джордж Вашынгтон атрымаў 60 тысяч даляраў. Праўда, прызначаную суму Касцюшку адразу не выплацілі з-за адсутнасці сродкаў у дзяржаўным скарбе. На рукі ён атрымаў толькі штогадовы працэнт – 736 даляраў.

### У вобразе «грэчкасея»

Таму Касцюшка вярнуўся на радзіму не больш багаты, чым быў у дзень уцёкаў дзевяць гадоў назад. Наступныя гады ягонага жыцця нечакана аказаліся падобныя на пастараль: 40-гадовы бравы генерал ездзіць на павятовыя соймікі, пашырае пасевы азімых, заводзіць пры сядзібе «аптэкарскі агарод» і па еўрапейскай модзе ўпрыгожвае сехновіцкі парк «зялёным лабірынтам». Гэтае жыццё «грэчкасея», як пісаў Касцюшка знаёмым, яго задавольвае, для паўнаты шчасця не хапала толькі жонкі і дзетак. Але тут лёс не выказаў да яго сваёй прыхільнасці.

Паглыбленне ў пустэчу сельскай ідыліі было вымушаным. Яго заморскія генеральскія эпалеты, не забяспечаныя грашыма, на радзіме ўсур'ёз не ўспрымалі, запрашэння на пасаду ў войску Касцюшка не атрымаў, а сродкаў, каб набыць генеральскі патэнт, ён не меў.

Лёс Касцюшкі паклапаціўся змяніць да лепшага Людвіка Сасноўская, якая з бацькоўскае волі стала княгіняй Любамірскай. Яна напісала ліст каралю, звярнулася да сваіх уплывовых сяброваk, і актыўная кампанія , праведзеная дамамі, дала нарэшце жаданы вынік. Праз чатыры гады па вяртанні з Новага Свету Касцюшка атрымаў з рук караля патэнт генерал-маёра і прыняў пад сваю каманду дывізію на поўдні Брэсцкага ваяводства.

### Апошняе каханне

Тут Касцюшка зведаў новае каханне. Закахаўся ён у Тэклю Журоўскую, дачку пінскага харунжага. Дзяўчыне было 18 гадоў, генералу Касцюшку – 45. Харунжы Журоўскі, падобна бацьку Людвікі Сасноўскай, паклонніка сваёй дачкі лічыў нерадавітым, бедным і адгукаўся пра яго як пра авантурыста: «Гойсаў па Амерыцы дзесяць гадоў, як казак. Нічога не прыдбаў. Хацеў пана Сасноўскага дачку скрасці. Ласы на чужыя грошы». На просьбу рукі Тэклі катэгарычна адмовіў і звёў дачку з генеральскіх вачэй.

У 1795 годзе, у часе паўстання, Журоўскаму давялося сустракацца з Касцюшкам, які, пасутнасці, быў першай асобай дзяржавы. Відавочцы гэтай сустрэчы адзначалі, што пінскі харунжы дрыжэў, як асінавы ліст, баючыся, што прыдзецца адказваць за абразлівыя словы і непавагу да пачуццяў. Аднак Касцюшка яму дараваў.

Праз пяць гадоў Тэкля Журоўская стала жонкай Караля Князевіча, паручніка Касцюшкі ў той час, і генерал-маёра ў часе паўстання. Але Князевіч быў на 16 гадоў маладзейшы за свайго камандзіра. Па модзе стагоддзя, Касцюшку была ўласцівая сентыментальнасць. Як святую рэліквію захоўваў ён да канца веку ў нагрудным медальёне падараваны яму Тэкляй завіток валасоў, а яе даўнія лісты часта перачытваў, сумуючы аб няспраўджаным шчасці.

### Шлях да славы

Да 18 ліпеня 1792 году генерал Касцюшка быў на радзіме асобай малавядомай. Еўрапейская слава і прызнанне суайчыннікаў прыйшлі да яго пасля бітвы пад Дубенкай, дзе дывізія Касцюшкі (6 тысяч штыкоў) супрацьстаяла 30-тысячнаму рускаму корпусу генерала Кахоўскага. Касцюшка старанна ўмацаваў пазіцыі на беразе Буга і зрабіў стаўку на артылерыю. Бітва цягнулася пяць гадзінаў, расійскія палкі страцілі дзве тысячы салдат, але так і не здолелі захапіць умацаванні. Увечары Касцюшка адступіў і выратаваў дывізію. Гэтая тактычная перамога пад Дубенкай нічога не змяніла ў ходзе ваенных дзеянняў, але Касцюшка стаў любімцам арміі і народу. Адразу пасля Дубенкі Касцюшка атрымоўвае званне генерал-лейтэнанта, а французскі Канвент абвяшчае яго ганаровым грамадзянінам Францыі.

21 студзеня 1793 году ў Парыжы быў пакараны на гільяціне Людовік XVI. Гэта падштурхнула Кацярыну II пакончыць з «рэвалюцыйнай заразай» паблізу межаў імперыі шляхам другога падзелу Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй і Расіяй. Сітуацыя абавязвала Польшчу адказаць на захопы зямель паўстаннем, а ўзначаліць яго меўся чалавек, аўтарытэтны для ўсіх слаёў грамадства.

Ім ніяк не мог стаць кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які баязліва прымкнуў да прарасійскай групоўкі здраднікаў. І ніхто з магнацкіх фамілій, якія стагоддзямі варагавалі паміж сабой за ўладу і ўплыў. На той момант нерадавіты, бедны, гэта значыць нікому не абавязаны, але з ваенным досведам і гучнай перамогай за плячыма Тадэвуш Касцюшка нявольна аказаўся ў ролі Жанны д'Арк – усе знакі паказвалі на яго.

У сакавіку 1794 году на Рынкавай плошчы Кракава Касцюшку аб'явілі Начальнікам паўстання. А 10 кастрычніка 1794 году адбылася бітва паўстанцаў з расіянамі пад Мацяёвіцамі – пераломная ў ходзе паўстання і няўдачная для Тадэвуша Касцюшкі.

Бой пад Мацяёвіцамі пачаўся ранкам. У сярэдзіне дня стала відавочна, што большая колькасць гарматаў у расійцаў прыносіць ім перамогу. Касцюшка, бачачы разгром сваёй кавалерыі і касінераў, у адчаі скакаў па полі. Афіцэрская форма заахвоціла напасці на яго купку казакоў. Іх стрэлы забілі пад ім каня. Касцюшка ўпаў на зямлю і, не жадаючы трапіць у палон, паклаў ствол пісталі ў рот і націснуў на спуск. Курок даў асечку. Адзін з казакоў стрэліў у Касцюшку, другі з каня ўдарыў яго пікай, кавалерыйскі карнет секануў бяззбройнага Касцюшку палашом па галаве. Казакі сцягнулі з яго боты, знялі пярсцёнкі з надпісам «Айчына – абаронцам сваім», якімі Касцюшка ўзнагароджваў замест медалёў, і ў кішэні знайшлі залаты гадзіннік. Крыкі польскіх салдат – «Начальніка забілі! Касцюшку!» – падказалі рабаўнікам, якая каштоўная здабыча трапіла да іх у рукі.

Тым жа днём быў адпраўлены вястун у Пецярбург, адкуль фельд-егер даставіў загад імператрыцы везці палоннага ў сталіцу акружным шляхам – па тых паветах, дзе не было паўстанцкіх аддзелаў.

### Апошняя сустрэча

Лёс вырашыў гэтак, што шлях канвоя з параненым пралягаў паблізу ад маёнтка Любамірскіх. Проста на дарозе і адбылося апошняе спатканне Тадэвуша з Людвікай. Княгіня папрасіла афіцэраў канвою спыніць карэту. Ёй далі тры хвіліны на развітанне. Касцюшка быў непрытомны, на яе пяшчотныя словы ён адказаць не мог, развітальны пацалунак не адчуў. Болей на гэтым свеце яны не бачыліся. Людвіка пражыла вялікі век, нарадзіла дачку і чатырох сыноў, набыла вядомасць як пісьменніца, але яе памяць аб першым каханні ніколі не саслабявала. У старыя свае гады яна толькі аб Тадэвушу і казала, усё чакала, што ён прыйдзе, і яны зноў убачаць адзін аднаго. Гэтыя мроі мелі над ёй такую сілу, што ўсіх людзей, якія прыязджалі ў дом з візітамі, прымала за Тадэвуша. Яна сканала ў 1834 годзе, упэўненая, што сустрэне каханага на нябёсах, дзе іх ужо ніхто не здолее разлучыць.

### Вязень Мармуравага палаца

У Пецярбургу Касцюшку трымалі ў Петрапаўлаўскай цвержы, зважаючы на цяжкія раны – у камендацкім доме. Праз паўгады Кацярына загадала перавесці слыннага вязня ў Мармуравы палац, у чым было болей дыпламатычнай сімволікі, чым спачування да параненага. Днём Касцюшку вывозілі ў калясцы на прагулянку па ўнутраным двары. Любімым заняткам вязня стала модная тады такарная работа. Плёнам здабытых навыкаў былі галоўным чынам куфэрачкі для тытуню. Касцюшка і пазней не забываў гэтае захапленне, даручы свае вырабы гасцям і знаёмым. Знайшліся нават дзялкі, якія гандлявалі такімі прэзентамі, называючы невядома кім зробленыя куфэрачкі вырабамі генерала Касцюшкі.

Сярод першых учынкаў Паўла І па заняцці трону быў візіт да знакамітага вязня Мармуравага палаца. Павел прапанаваў Касцюшку вызваленне пры ўмове прысягі на вернасць яму, расійскаму імператару. Прысяга давала волю не толькі Касцюшку, але і сябрам, якіх трымалі ў казематах Петрапаўлаўскай цвержы, і яшчэ 12 тысячам паўстанцаў, сасланым у Сібір. Касцюшка пагадзіўся. Расчулены Павел падараваў Касцюшку маёнтак у Расіі з тысячай сялянскіх душ. Ад гэтага падарунка Касцюшка адмовіўся. Тады Касцюшка атрымаў ад імператара карэту, абсталяваную з улікам яго хваробы, сабаліную шубу, падарожную кухню і 12 тысяч рублёў на дарогу.

Першая сустрэча з Паўлам адбылася 26 лістапада, а 18 снежня Касцюшка ўжо як вольны чалавек наведаў Зімні палац з візітам імператарскай сям'і. Ён падараваў імператрыцы табакерку ўласнага выканання, у адказ імператрыца падаравала яму такарны варштат. Адразу па гэтым візіце Касцюшка разам са сваім ад'ютантам Нямцэвічам пакінуў Санкт-Пецярбург.

### Вязень ілюзіяў

Ягоны шлях ляжаў праз Швецыю, Англію і Атлантычны акіян у добразычлівую да яго Амерыку. У жніўні 1797 году Касцюшка зноў ступіў на прычал Філадэльфіі, а неўзабаве атрымаў належную яму за ўдзел у вайне суму – разам з працэнтамі гэта склала 18.940 даляраў. Першапачаткова ён планаваў застацца ў дэмакратычных Злучаных Штатах назаўжды. Аднак у траўні наступнага году Касцюшка нечакана і таямніча для ўсіх адбывае пад выдуманым прозвішчам у Еўропу. Адзіным чалавекам, які ведаў яго планы, быў віцэ-прэзідэнт ЗША Томас Джэферсан. Гэта яму Касцюшка даверыў запаветам 12 тысяч даляраў на справу вызвалення неграў. Джэферсан выканаў ягоную волю: у 1826 годзе, калі Касцюшкі ўжо не было на свеце, на яго грошы была створана негрыцянская школа, якая атрымала назву «Школа Касцюшкі».

Падставай вяртання ў Еўропу лічаць прапанову генерала Дамброўскага ўзначаліць марш польскіх легіёнаў з Італіі ў Малапольшчу для барацьбы супраць аўстрыйскай акупацыі з наступным усенародным паўстаннем і адраджэннем Рэчы Паспалітай. Запалены надзеяй на дапамогу рэвалюцыйнага яшчэ Напалеона, Касцюшка паспяшаўся напісаць імператару Паўлу, што адмаўляецца ад прысягі на вернасць і вяртае 12 тысяч рублёў. Абражаны Павел адаслаў грошы назад. Касцюшка іх не прыняў, і гэтая дастаткова вялікая сума назаўжды засталася ў лонданскага банкіра Барынга.


Помнік генералу Касцюшку ў Філадэльфіі

У Парыжы хутка высветлілася, што Напалеону ён патрэбны як сімвал запужвання магчымым паўстаннем Прусіі, каб выбіць яе з антыфранцузскай кааліцыі. Адраджэння Польшчы Напалеон не планаваў. У 1801 годзе пасля замірэння з аўстрыйцамі Напалеон загадаў расфарміраваць легіёны па італьянскіх мястэчках. Легіёны не пагадзіліся, і з 15 тысяч легіянераў у Італіі засталося толькі пяць. Іх пасадзілі на караблі і выправілі на востраў Сан-Дамінга для вайны з мяцежнымі неграмі. Тут яны амаль усе загінулі ў баях ці ад ліхаманкі. Назад вярнуліся толькі 400 чалавек. Ва ўмовах такога выкарыстання сваіх землякоў Касцюшка служыць Напалеону адмовіўся.

### Знойдзеная сям'я

У 1800 годзе Касцюшка пераязджае ў вёску Бярвіль каля Фантэнбло, за 20 вёрст ад Парыжа, у сядзібу сваіх сяброў – братоў Цэльтнераў. Старэйшы прадстаўляў Швейцарыю ў Францыі, малодшы на радзіме быў бургамістрам невялікага гарадка Салюрн. У Бярвілі Касцюшка пражыў амаль 14 гадоў, дзелячы свой час паміж варштатам, прыёмам гасцей і выхаваннем любімай хроснай дачкі – Тадзі Эміліі Цэльтнер, якую навучаў гісторыі, малюнку, матэматыцы і мовам. Хоць і ў сталыя гады, ён усё ж зведаў бацькоўскія радасці і дзіцячую любоў. Тое, без чаго жыццё нельга назваць удалым.

Два апошнія гады Касцюшкі аказаліся звязаныя з Салюрнам, дзе Франц Цэльтнер выдзеліў яму першы паверх свайго дому. Тут ён працягваў навучанне хросніцы, а калі дазваляла здароўе, ездзіў конна на прагулянку. Конь быў смірны, ішоў ціхім крокам, стары генерал пакачваўся ў сядле, узгадваючы даўнія тысячакіламетровыя пераходы ў Амерыцы, кожнаму стрэчнаму ўсміхаўся і кожнаму жабраку падаваў міласціню.

Памёр ён увечары 15 кастрычніка 1817 году, абкружаны людзьмі, якіх лічыў сваёй адшуканай сям'ёй. Яны першыя і аплакалі яго, як заведзена сярод родных. Праз год астанкі Касцюшкі былі перавезены ў Кракаў і пакладзены на вечны спакой у Вавельскім касцёле, блізка Рынкавай плошчы, дзе прагучала яго прысяга.

# Хірасіма не навучыла людзей

**Джоўзэф РОТБЛАТ,**
***амерыканскі фізік-ядзершчык, лаўрэат Нобелеўскай прэміі***

Ініцыятывы па ліквідацыі ядзерных узбраенняў сёння не надта паспяховыя, калі не сказаць, што яны наогул не маюць поспеху. Пагуошская канферэнцыя ды іншыя грамадскія аб'яднанні, якія жадаюць вызваліць свет ад ядзернай зброі, сваю дзейнасць прыпынілі. Больш за тое, прымяненне такой зброі можа неўзабаве стаць неад'емным складнікам ваеннай стратэгіі.

Я не збіраюся здрабняць значэнне поспехаў праціўнікаў ядзернай зброі. У мяне, зразумела, няма доказаў, але я перакананы, што львіная частка заслугаў у тым, што ядзерную вайну да цяперашняга часу ўдавалася папярэджваць, прыпадае на арганізацыі гэтых людзей.

Але нас шакіравалі выкрыванні, зробленыя па справаздачы прэзідэнта ЗША пра стан ядзерных сілаў. Гэтай справаздачай ЗША далі зразумець, што яны адмаўляюцца ад папярэдняй дактрыны, згодна з якой прымяненне ядзернай зброі было апошнім выйсцем з сітуацыі, і бяруць на ўзбраенне новую стратэгію. Яна прадугледжвае выкарыстанне ядзернай зброі ў войнах з прымяненнем звычайных відаў узбраенняў. Гэта вялізны і небяспечны прарыў у самім абгрунтаванні права на існаванне ядзерных узбраенняў.

Пры пераглядзе ядзернай дактрыны ў 1994 годзе, які распачала адміністрацыя Клінтана, упершыню ўзгадвалася пра магчымасць нанясення ядзернага ўдару ў адказ на напад з прымяненнем хімічнай ці бактэрыялагічнай зброі. Апошні дакумент прэзідэнта ідзе яшчэ далей: ён аб'яўляе ядзерную зброю сродкам захавання міру. Калі менавіта гэта з'яўляецца сэнсам такой зброі, то патрэба ў ёй будзе захоўвацца да таго часу, пакуль спрэчныя пытанні будуць вырашацца ваенным шляхам, іншымі словамі, – пакуль вайна застаецца прызнаным сацыяльным інстытутам. Такая палітычная лінія па мностве падставаў ёсць непрымальная для цывілізаванага грамадства з розных пунктаў гледжання.

Ядзерная палітыка ЗША з'яўляецца з лагічнага гледзішча контрпрадуктыўнай. Калі пэўныя краіны, у тым ліку самыя магутныя ў ваенных адносінах, кажуць, што ядзерная зброя неабходная ім для сваёй бяспекі, то гэтакай жа бяспекі нельга пазбаўляць іншыя краіны, якія, сапраўды, не адчуваюць сябе ў бяспецы.

Палітыка маштабнага запалохвання непрымальная і па палітычных прычынах. Яна ў вышэйшай ступені носіць дыскрымінацыйны характар, бо дазваляе некаторым краінам, а практычна адной краіне, прысвойваць сабе пэўныя правы, напрыклад, на ролю сусветнага жандара, які накладае санкцыі на распаўсюджанне ядзерных матэрыялаў ці нават пагражае непаслухмяным прымяненнем ваенных сродкаў.

Але найперш маштабнае запалохванне непрымальнае па этычных прычынах. Уся канцэпцыя ядзернага застрашэння базуецца на веры ў тое, што пагроза і помста будуць успрымацца ўсур'ёз, што ядзерная зброя сапраўды будзе ўжытая ў выпадку агрэсіі, інакш усё хутка аказалася б блефам. Джордж Буш павінен быць перакананы, што ён у сілу сваёй асабістай канстытуцыі будзе ў стане націснуць на кнопку і выклікаць маштабныя разбурэнні. Пры гэтым былі бы пабіты не толькі мяркуемы агрэсар, але найперш маглі б пацярпець невінаватыя людзі, у небяспеку, магчыма, магла б патрапіць уся наша цывілізацыя. І без прымянення гэтакой зброі сёння гінуць дзесяткі тысяч невінаватых, дзеці застаюцца сіротамі. Мне страшна думаць, што адной з неабходных якасцяў кіраўніка з'яўляецца таксама падрыхтаванасць здзяйсняць генацыд, а менавіта гэта і атрымліваецца пры пільным разглядзе сітуацыі.

Пагаджаючыся з гэтакай палітыкай, палец на спускавой скабе ў пераносным сэнсе трымае не толькі прэзідэнт, але і кожны з нас у асобнасці. Кожны з нас шукае шчасця ў гульні ў рулетку, дзе на кон пастаўлена выжыванне чалавечай цывілізацыі, а ў прыватнасці, – сваіх родных, дзяцей і ўнукаў, сваякоў, любімых, калегаў.

**Frankfurter Rundschau**

## *Амерыканцы вераць у існаванне раю*

Як паказвае апошняе даследаванне, апублікаванае тыднёвікам «Ньюсуік», большыня жыхароў ЗША шчыра верыць у існаванне раю. Перакананне, што чалавека на нябёсах можа чакаць вечнае жыццё, выказалі 76% апытаных. Пры гэтым 19% удзельнікаў апытання ўяўляюць сабе рай у выглядзе саду. 13% больш схільны бачыць не райскія шаты, а прыгожы горад, дзе ёсць усе ўмовы для шчаслівага жыцця. 17% не маюць выразнага ўяўлення пра тое, як выглядае райскае жыццё. Цяпер у ЗША вялізным поспехам карыстаецца кніга, у якой аповед вядзецца ад асобы 14-гадовай дзяўчынкі, што трапіла ў рай і знайшла там мілых шчанючкоў, прыгожыя палі і будынкі ў віктарыянскім стылі.

У жыцці амерыканскага грамадства знікаюць выразныя ўяўленні пра тое, што служыць для чалавека «пропускам у рай»? Як цвердзяць аптымісты, цяперашняя цывілізацыя ў ЗША нарэшце дастаткова саспела для таго, каб адрозніваць дабро ад зла, не патрабуючы «сістэмы заахвочвання» ў выглядзе абяцанняў шчасця пасля смерці. Песімісты ж мяркуюць, што грамадства проста «страціла маральны компас».

## *Забаўкі багатых*

Вам даводзілася есці бульбу коштам 500 еўра за паўкіло? Калі не, тады ваша жыццё не застрахаванае таксама і на 1 мільярд еўра, як у лацінаамерыканскай зоркі Джэніфер Лопес. Вы не ведаеце, колькі каштуе самая дарагая кава, самы дарагі касцюм і колькі каштуе самы дарагі пачак цыгарэтаў. Вы ніколі і не дазнаецеся пра гэта, бо ў вас, звычайнага чалавека, няма, не было і не будзе сродкаў, неабходных для такога бессэнсоўнага іх марнавання.

### Колькі зарабляюць зоркі?

Калі б вы вырашылі здымаць меладраму і запрасіць Мэла Гібсана на ролю бацькі, Ніколь Кідман – на ролю маці, а Арнольда Шварцнэгера – на ролю бязлітаснага злачынцы, то вам прыйшлося б заплаціць ім 72 мільёны даляраў. Такі будзе агульны ганарар гэтых трох зорак.

### Самыя багатыя калекцыянеры

Што робіць звычайны чалавек, калі хоча ўбачыць твор мастацтва? Ідзе ў музей. А што пры такім жаданні робіць мільярдэр, прыкладам, як Біл Гейтс. Ён набывае сабе свой уласны музей.

Супербагатыя людзі валодаюць страшэнна дарагімі аўтамашынамі, віламі і самалётамі. Шмат хто з іх аддае мільёны за Ван-Гога, Пікасо ды іншыя скарбы мастацтва. Вось Біл Гейтс – камп'ютэрны геній сучаснасці – найболей любіць Леанарда да Вінчы. За 23,5 мільёнаў еўра ён набыў знакамітую запісную кніжку да Вінчы «Codex Leicester», у якой 72 старонкі з нататкамі і эскізамі знакамітага італьянца, зробленымі карычневым чарнілам і люстэркавым шрыфтам..

Жыццё надта несправядлівае: пакуль адны спекулююць чужымі рэчамі, іншыя іх купляюць па вар'яцкіх коштах, мноства людзей памірае проста ад недахопу хлеба ці самых танных лекаў.

# Таямніца фашызму – НІХТО

Здаецца, што можна яшчэ паведаць пра аднаго з найвялікшых злачынцаў усіх часоў пасля даследавання В.Булака «Гітлер. Школа тыраніі», пасля біяграфіі гэтай пачвары, напісанай Дж. Фэстам, і яшчэ 120 тысяч іншых публікацыяў на тэму фюрэра, якія выйшлі ў свет, пачынаючы з 1945 году.

Тым не менш, у гітлерыяне не перастаюць з'яўляцца бестселеры. Апошняй такой кнігай, якая захапіла чытацкую ўвагу Заходняй Еўропы, стала даследаванне «Гітлер» аўтарства Дж. Кершоу, медыевіста, гісторыка з універсітэта ў Шэфілдзе, якое выйшла ў 1998 годзе, а цяпер выдаецца ў перакладах на розныя еўрапейскія мовы.

Тое, што постацю, якая аказала неаспрэчны ўплыў на ход гісторыі дваццатага стагоддзя, заняўся даследнік сярэднявечча, прычым па метадыцы тыповай для пазнання даўняй эпохі, стала галоўным козырам гэтай незвычайнай кнігі. Кершоу ставіцца да аб'екту сваіх даследаванняў гэтак жа бесстрастна, як археолаг ставіцца да шкілету, які абмахвае мяцёлкай. А галоўнае, па яго словах, што ён разглядае праблему з «неўласцівага гэтай тэме ракурсу: болей чым постаць гэтага чалавека мяне цікавіла, як наогул Гітлер стаў магчымы».

Праца Кершоу – гэта не анатамічнае даследаванне злога генія вайны, суперашуканца ці паталагічнай асобы, але біяграфія кагосьці НІЯКАГА, хто быў бы павінен застацца непрыкметнай драбнай натоўпу, калі б не цалкам фантастычны збег акалічнасцяў, якія з нікчэмнага гора-мастака з венскай начлежкі для беспрытульных зрабілі кашмар стагоддзя. Адольфа Гітлера стварыла ўласна тая ніякасць, якая паспрыяла яму ідэнтыфікавацца з пасярэднім, шэрым, не недта ўдалым немцам. Да трыццаці гадоў жыцця пазнейшы фюрэр быў НІКІМ: чалавекам без твару, без пагляду, нават без біяграфіі. Яго бацька Алоіс змяніў прозвішча з сапраўднага Шыкльгрубер на выдуманае Гітлер, якое ніколі не існавала ў ніводным спісе нямецкага насельніцтва. Былі: Гетлер, Гутлер, Гедлер (так называўся айчым Алоіза), але Гітлер быў створаны ім самім. Можна верыць пазнейшым словам Адольфа, што ні за што іншае ён не быў бацьку так удзячны, як за змену сямейнага прозвішча, бо як бы недарэчна гучала тады абавязковае прывітанне – «Хайль Шыкльгрубер!».




Ананімным было першае каханне Адольфа Гітлера – дзяўчына, сустрэтая ім на вуліцы ў Лінцы, нават не ведала аб яго існаванні, і каханне апошняе, Ева Браун, пра існаванне якой – аж да смерці ў бункеры канцыляры Трэцяга Рэйху – не мелі паняцця мільёны падданых фюрэра. Нікім быў Гітлер, трымаючыся вегетарыянскай дыеты ў венскай начлежцы і жывучы з малявання карцінак, якія прадаваў у піўных па 5 кронаў за штуку. Тады ён насіў «даўгі шэры плашч павыцерты на рукавах, састарэлы капялюш, штаны з мноствам дзірак і боты з дзіркамі на падэшвах, валасы меў па плечы і не падстрыгаў барады». Банальнымі былі караны яго абвешчанай, проста заалагічнай, нянавісці да габрэяў, якім у Вене вялося лепей, чым яму. Быў нікім у войску поўным швейкаў, дзе за пяць гадоў старannай службы даслужыўся толькі да чына ефрэйтара (па тлумачэнні афіцэраў – не меў «камандзірскага голасу»). У палітызаваным Мюнхене 1920 года па задушэнні Баварскай Савецкай Рэспублікі, дзе кожная піўная была Гайдн-паркам, быў толькі адным з сотняў крыкуноў, антысемітызм якіх выклікаў задаволены смех і грукатанне куфлямі аб стол аднадумцаў.

Калі пісаў «Майн кампф», мусіў моцна вымысляць сваю біяграфію – стварыў легенду аб венскім супраціўленні варожаму і бруднаму габрэйству, аб сваім сёмым нумары пасведчання Нямецкай Рабочай партыі (папярэдніцы НСДРП), у той час, як на ім былі добра бачныя тры пяцёркі, аб уласнаручным захопе ў палон 15 французаў, за што атрымаў Жалезны Крыж, напраўдзе нададзены яму за беганіну з рапартамі ў характары ротнага ардынарца.

Кершоу даводзіць, што ў святле нямецкага права Гітлер таксама заставаўся нікім – без грамадзянства – аж па 1932 год, калі яшчэ ўрад Веймарскай рэспублікі мог яго дэпартаваць адным подпісам простага ўрадніка. Не зрабіў гэтак, бо па выхадзе са зняволення ў 1925 годзе не парушыў судовай забароны на публічныя выступленні. Заплюшчылі тады вочы на захады Гітлера пра паскоранае атрыманне грамадзянства для магчымасці заняць пасаду радцы ў аддзеле сельскай гаспадаркі і геадэзіі ў Брунсвіку. Гітлер тады нацэліўся на пасаду канцлера, на якую не маглі абраць без нямецкага пашпарту. У 1932 годзе ён гэтае месца атрымаў.

І як вынік – да сусветнай вайны засталося сем гадоў, бо НІХТО заўжды імкнецца кампенсаваць сваю нікчэмнасць праз ужыванне сілы, тэрор, вынішчэнне нязгодных, вайну.

**Wprost**

# Беці – геніяльная варона

## Новакаледонскія вароны – разумнейшыя за нашых



Спецыялісты па паводзінах жывёлаў аддзялення заалогіі Оксфардскага універсітэта правodзілі эксперымент над дзвюма варонамі віду Corvus moneduloides з Новай Каледоніі – французскага вострава ў паўднёвай частцы Ціхага акіяну. Варонам далі імёны Беці і Абель, і абодва выказалі разумныя паводзіны, хоць і рознага кшталту.

Даследнікі паказвалі птушкам ежу, пакладзеную на дно высокага, вузкага шклянога слоіка, а потым назіралі, ці ўдасца ім дабрацца да пачастунка з дапамогай кавалкаў дроту, якія раскладалі паблізу.

Пасля чатырох няўдалых доследаў здарылася сенсацыя: варона Беці дзюбай сагнула дрот у кручок і лоўка выхапіла ім са слоіка кавалкі мяса. Доказы невыпадковасці ўчынку не прымусілі доўга сябе чакаць. Беці паўтарыла сваё дасягненне яшчэ дзевяць разоў у дзесяці эксперыментах. Яна нават змагла змяніць форму кручка, калі ён не падыходзіў для выканання задачы.

Шмат якія жывёлы ў дзікай прыродзе карыстаюцца рознымі рэчамі дзеля таго, каб дапамагчы здабыць сабе ежу, але дасюль ніхто не бачыў падобнага майстэрства. Беці, якая правяла два гады ў няволі, пачала вырабляць свае прылады з дроту ў той час, як стары воран Абель выкінуў дрот, які яму таксама прапанавалі даследнікі. Беці ж сваёй дзюбай зрабіла кручок, адпаведны няпростым умовам эксперыменту.

Па словах Алекса Касельніка, выкладчыка Pembroke College, які вывучае мадэлі паводзінаў жывёлаў у натуральных абставінах, гэта асабліва дзіўна, бо гаворка ідзе пра экземпляр, які ніхто такім прыёмам не вучыў. «З самага пачатку Беці прадэманстравала, што, згінаючы дрот, яна ведае, дзеля чаго гэта робіць, у некаторых выпадках яна нават мяняла вугал згінання, калі ён быў няправільны, і кручок аказваўся непрыдатны для здабывання мяса са слоіка, – адзначыў вучоны. – Наўмыснае прыстасаванне рэчаў для вырашэння новых праблемаў пры адсутнасці адпаведнага вопыту і навыкаў – гэта нешта зусім новае, што мы назіралі».

Па словах Касельніка, нават шымпанзе не дэманстравалі такога ўмення. «Доследы з прыматамі, якія больш блізкія сваякі чалавека, чым птушкі, паказалі іхнюю няздольнасць да асэнсаванага вырабу спецыяльных прыладаў і адсутнасць у іх характэрнага для чалавека разумення законаў фізікі».

Пакуль немагчыма з дакладнасцю акрэсліць, ці ёсць Беці геніяльнае выключэнне, ці прадэманстраваныя ёй незвычайныя здольнасці характэрны для варон наогул. Абель не вырабляе прылады, а чакае, пакуль Беці выцягне са слоіка ежу, пасля чаго прымушае яе аддаць яму здабыты кавалак. «Цяжка судзіць, чые паводзіны можна назваць больш разумнымі», – зазначае Касельнік.

Гэвін Хант з універсітэта Окленда, які спецыяльна вывучае гэтых від варон, лічыць адкрыццё оксфардскіх калегаў цікавым, але не надта ашаламляльным. «Безумоўна, нам хацелася б сказаць, што птушкі дзеля таго, каб дастаць пачастунак з нязручнай для іх банкі, выкарысоўваюць менавіта абстрактнае мысленне, як гэта зрабіў бы на іхным месцы чалавек. На справе, прыйдзецца правесці яшчэ шмат доследаў, пакуль мы зможам з упэўненасцю сцвярджаць нешта падобнае».

**Science**

## Занятак

### Хобі разумных візантыйцаў

У часе раскопаў у візантыйскім палацы на поўдні Албаніі брытанскім археолагам удалося знайсці шахматную фігуру, паведаміла BBC News. Гэтую каштоўную рэч знайшлі ў культурным слоі антычнага гораду Бутрынта. Фігура выкананая з маржавых іклаў. Даследнікі датуюць яе шостым стагоддзем нашай эры. Прафесар Рычард Ходжас заявіў: «Мы не ведаем кароль ці ферзь. На версе фігуры маецца невялікі крыжык».

Да нядаўняга часу лічылася, што шахматы набылі папулярнасць сярод еўрапейскай эліты толькі праз 700 гадоў пасля вынаходжання іх на Усходзе. Аднак гэтая знаходка, на думку даследнікаў, сведчыць пра тое, што еўрапейцы пачалі іграць у шахматы не ў XII стагоддзі, а значна раней.

## Знаходкі

### Падземны ход Робін Гуда

У горадзе Натынгеме, сусветна вядомым па баладах пра Робін Гуда, археолагі знайшлі падземны ход, якім шляхетны разбойнік здолеў уцячы ад шэрыфа. Патаемны ход быў знойдзены пад галерэямі музея юстыцыі на глыбіні 2,5 метры ніжэй узроўня вуліцы.

Археолагі даследавалі штучныя пячэры 14-га стагоддзя пад будынкам музея і нечакана апынуліся ў падземным тунэлі, калі разабралі рэшткі згнілага насцілу. Вучоныя лічаць, што ход быў прарыты ад царквы Святой Панны Марыі, дзе згодна хронікам, Робін Гуд імкнуўся схавацца ад слугаў шэрыфа.

Цяпер эксперты спрабуюць акрэсліць дату пабудовы падземнага хода. Мяркуецца, што яго зрабілі ў 12-ым стагоддзі. Як заявіў адзін з археолагаў Гавін Кінгслей, «вельмі дзіўна знайсці сёння доказы тэорыі, што Робін Гуд патрапіў у пастку ў царкве і ўратаўся, скарыстаўшы сістэму падземных тунеляў».

### Дагістарычнае захаванне

У часе палявых работ у Германіі, блізка саксонскага горада Бенцыгеродэ, было знойдзена захаванне, узрост якога акрэсліваюць у 5 тысяч гадоў.

Літаральна ўсяго за некалькі сантыметраў ніжэй узроўню паверхні адкапалі астанкі прыкладна 40 старажытных насельнікаў гэтай мясціны, прычым, па водгуках археолагаў, яны знаходзіліся ў «добрым» стане, калі гэтакае акрэсленне можна прымяніць да захавання. Для цывілізаванай Германіі, дзе ўся прыдатная для культывацыі зямля даўно знаходзіцца ў сельгасабароце, падобная знаходка з'яўляецца, як заявіла Ўпраўленне па археалогіі Федэральнай зямлі Саксонія, «напраўдзе унікальнай».

### Неразрабаваны саркафаг

У гарадскіх межах Каіру, у мусульманскім квартале Айн аш-Шамс, што па-арабску азначае «Вока Сонца», знойдзены два захаванні, якія адносяцца да XXVI Саіскай дынастыі Новага царства (664-625 гады да нашай эры). Унікальная знаходка зроблена на месцы былога язычніцкага цэнтру Старажытнага Егіпта. Паспрыялі знаходцы егіпецкія законы: будаўнічыя працы нельга пачынаць без правядзення археалагічнай разведкі. Таму, як толькі гаспадар ўчастку ў Айн аш-Шамсе звярнуўся за дазволам на будаўніцтва дома, на пляцоўку прыбылі археолагі. Першы адрыты слой зямлі прынёс сенсацыю – вачам археолагаў адкрыліся два захаванні. У адной з магілаў знойдзены саркафаг і 16 статуэтак. Гэта шчаслівы для археолагаў і рэдкі выпадак, калі старажытныя пахаванні не пацярпелі ад злодзеяў за 2,5 тысячы гадоў.

## Рэлікты



Кітайскія гурманы надта любяць паесці мяса унікальных яшчураў – панголінаў. Чалавечая жорсткасць паставіла гэты рэліктавы від на мяжу вымірання. Нядаўна кітайская паліцыя здолела выратаваць ад смерці на патэльні партыю панголінаў, якіх кантрабандысты перапраўлялі ў рэстаранную сетку Кітаю.

### Дым цыгарэт забівае вашу кошку

Калі ў вас не хапае сілы характару, каб «завязаць» з курэннем дзеля здароўя сваіх жонкі і дзяцей, зрабіце гэта хоць бы дзеля любімай кошкі.

Амерыканскія вучоныя даказалі, што гэтак званае пасіўнае курэнне (неабходнасць дыхаць паветрам, якое атручваюць тытунёвым дымам курыльшчыкі) наносіць здароўю хатніх жывёлаў, у прыватнасці, кошак, шкоду не меншую, чым здароўю людзей. Вучоныя спадзяюцца, што заўзятым курцам, якія абыякавыя да таго, што іх малапрыстойная звычка шкодзіць блізкім людзям, стане сорамна, калі яны даведаюцца, што з-за іх могуць пакутваць хатнія жывёлы. Даследнікі, якія вывучылі 180 кошак, якія лячыліся ў ветэрынарнай клініцы горада Тафтс (штат Масачусэтс) з 1993 па 2000 год, паведамілі ў Амерыканскім эпідэміялагічным цэнтры, што кошкі, якія жывуць у адным доме з курцамі, у два разы часцей хварэюць на кашачую лімфому. Кошкі, якія захварэлі на лімфому, у 75 працэнтах выпадкаў паміраюць на працягу году.

Джылі Купер, гаспадыня, якая трымае чатырох кошак, сказала, што калі яна кінула курыць, стан здароўя ейных любіміц значна палепшыўся: «Цяпер мы дома не курым, і нашыя кошкі жывуць значна болей».

**The Times**

# Насоўваюцца бедствы засухі

## Вада не нафта – без яе ніхто не пражыве

Трэцюю справаздачу ААН па праблемах навакольнага асяроддзя рыхтавалі больш за тысячу спецыялістаў з усяго свету. Падмурак дакументу складаюць даследаванні зменаў, якія панесла навакольнае асяроддзе за апошнія 30 гадоў.

Трыццаць гадоў – лічба не выпадковая. Менавіта ў 1972 годзе прайшла знакамітая Стакгольмская канферэнцыя, у выніку якой і была заснаваная UNEP – камісія ААН па навакольнаму асяроддзю. Аўтары даюць аргументаваны прагноз развіцця чалавецтва на наступныя 30 гадоў – да 2032 году.

Калі ўявіць, што адносіны чалавецтва да навакольнага асяроддзя не зменяцца, а рынкавая эканоміка будзе развівацца такімі ж тэмпамі, як і зараз, дык праз трыццаць гадоў найбольш дэфіцытным рэсурсам стане чыстая прэсная вада. Больш за тое. Вада можа стаць ледзь не галоўнай падставай войнаў у будучыні, такой самай важнай, як цяпер нафта.

Уласна кажучы, і ў дадзены момант сітуацыя з воднымі рэсурсамі далёкая ад таго, каб лічыцца добрай. Нават у Еўропе з яе высокім дабрабытам каля 120 мільёнаў чалавек пазбаўленыя доступу да чыстай пітной вады, пры гэтым штогодна з-за неэканомнага яе выкарыстання «ў трубу» выцякае вады на 10 мільярдаў даляраў. У сусветных маштабах на дадзены момант амаль мільярд чалавек не маюць ніякага доступу да бяспечнай пітной вады. Да 2032 году іх колькасць павялічыцца да 2,7 мільярдаў.

Ужо сёння, па ацэнках МАГАТЭ, штогод 5 мільёнаў чалавек памірае ад хваробаў, злучаных з выкарыстаннем забруджанай і няякаснай вады.

Еўропа і Паўночная Амерыка – адзіныя месцы на Зямлі, дзе чалавецтва болей-меней адэкватна рэагуе на змены навакольнага асяроддзя. Разумная экалагічная і прамысловая палітыка далі свае вынікі. Рэйн, вада якога яшчэ 20 год таму нагадвала сцёкавую канаву, стаў чысты, прадпрыемствы перабсталяваныя, шкодная вытворчасць перанесена ў краіны трэцяга свету. У цывілізаванай Еўропе і Паўночнай Амерыцы экалагічная сітуацыя адчувальна палепшылася – пра гэта таксама напісалі аўтары справаздачы. Больш сумна складваюцца справы ў Трэцім свеце, дзе краіны з прычыны беднасці не навучыліся адэкватна рэагаваць на дэградацыю навакольнага асяроддзя.

Менавіта беднасць – галоўны вораг навакольнага асяроддзя. Паколькі бедных краін і людзей на свеце бальшыня, то ў бліжэйшыя 30 гадоў мы, згодна прагнозу, рызыкуем страціць да чвэрці ўсіх відаў млекакормячых, сотні відаў птушак, тысячы відаў раслін. Праз 30 гадоў больш за 70 працэнтаў паверхні Зямлі будзе так ці інакш дэфармавана пад уплывам чалавечай дзейнасці. Асабліва моцна пацерпяць краіны Паўднёвай Амерыкі і Карыбскага басейна.

# У італьянцаў не лепш

## *Кватэрныя злодзеі і абарона ад іх*

У дамах італьянцаў захоўваецца багацце на агульную суму 52 мільярды еўра. Гаворка ідзе пра грошы, каштоўнасці, гадзіннікі, футра і да т. п.

Траціна італьянцаў (31%) трымае ўсё самае каштоўнае выключна дома, гэтай не лепшай звычцы следуюць іспанцы, займаючы другое месца ў Еўропе (29%), трэцяе месца (24%) за французамі, услед ідуць брытанцы (12%), скандынавы (9%) і апошняе месца займае Германія – сярод немцаў толькі 5% даварае хатнім замкам.

У кожным італьянскім доме ў сярэднім знаходзіцца каштоўнасцяў на восем тысяч еўра. Гэта стварае сапраўны рай для злачынцаў.

Больш за ўсё крадуць грошы (57% выпадкаў), потым фамільныя каштоўнасці (56%), гадзіннікі (46%) і серабро (23%). Менш крадуць футра (13%), антыкварыят (9%) і добрае віно (3%).



Прыёмы крадзяжу прымітыўныя: бальшыня жулікаў карыстаюцца тым, што ўваходныя коды надрапаны на сценцы ля дзвярэй. Даволі часта (12%) важную інфармацыю падаюць злачынцам сантэхнікі, электрыкі, антэншчыкі. Злодзеі таксама арыентуюцца на перапоўненыя карэспандэнцыяй паштовыя скрынкі (46%) і на маўчанне тэлефонаў (37%). Каб залезці ўнутр дома, жулікі скарыстоўваюць дахі і паддашкавыя вокны (66%) ці забіраюцца праз балконы і вокны (33%). Толькі 16% злачынцаў узламваюць дзверы, зусім нязначная колькасць (5%) здольная падабраць адмычку.

**Парады ад паліцыі:**

– варта пакідаць запаленым святло і даручаць сваякам забіраць пошту,

– варта дамаўляцца з суседзямі, каб яны звярталі ўвагу на падазроныя рухі і шумы,

– лепш пакінуць добрым знаёмым свае каардынаты, каб яны маглі проста звязацца з вамі ў выпадку неабходнасці,

– каштоўныя рэчы лепш захоўваць у сейфах ці пакідаць на захаванне сваякам,

– каштоўныя рэчы варта фатаграфаваць і захоўваць фотаздымкі разам з іншымі дакументамі ў надзейным месцы,

– не варта хаваць грошы ці каштоўнасці ў агульнадаступных месцах (пад бялізнай у шафе, у вазах, пад дыванамі, за карцінамі), бо злодзеі пачынаюць пошук з такіх схованак.

Удача любіць разумных.

**La Stampa**

Здароўе

# *Мужчыны псуюць статыстыку смяротнасці*

Грамадства было б значна здаравейшае, калі б не было мужчын. Як сцвярджаюць амерыканскія вучоныя з Універсітэта Мічыгану, адзін толькі факт прыналежнасці да мужчынскага полу аўтаматычна павялічвае рызыку смерці практычна з усіх прычынаў.

Даследнікі вывучылі структуру прычынаў смерці ў 20 краінах. Яны адзначылі, што ва ўзросце ад 20 да 24 гадоў рызыка смерці для мужчыны ў тры разы вышэйшая, чым для жанчыны, а ва ўзросце да 50 гадоў – у два разы вышэйшая. Нават у больш сталым веку праследжваецца аналагічная палавая розніца ў верагоднасці наступлення смерці.

Аўтары даследавання падлічылі, што толькі ў ЗША прывядзенне ўзроўню смяротнасці мужчын да адпаведнага паказчыку ў жанчын магло выратоўваць штогод да 375 тысячаў жыццяў.

На думку вучоных, тлумачэнне росту розніцы па палавых прыкметах трэба шукаць у тым, што ахове здароўя жанчын удзяляецца болей увагі, менавіта на іх у большай ступені арыентаваныя новыя медыцынскія тэхналогіі. Высокай смяротнасці мужчын у апошнія дзесяцігоддзі маглі спрыяць такія фактары, як з'яўленне вынішчальнай зброі і хуткасных машын.

Хоць даследаванні зробленыя ў ЗША, атрыманыя даныя павінны падштурхнуць урады ўсіх краін да прыняцця мераў аховы здароўя мужчын.

# Як працуе інтуіцыя?

## *Кожны хоча прароцкага дару*

Усе людзі часта ўзгадваюць пра сваю інтуіцыю, прыкладам: «Інтуіцыя мяне ніколі не падманула» ці «Чаму я не даверылася сваёй інтуіцыі?» Але што насамрэч уяўляе гэтая самая інтуіцыя?

Цікава, што ў некаторых моваў нават няма такога слова. Англічане абыходзяцца паняццем «інстынкт». У перакладзе з лаціны «інтуіцыя» азначае «пільна ўглядацца». Энцыклапедычны слоўнік медычных тэрмінаў трактуе паняцце «інтуіцыя» як непасрэднае пазнанне рэчаіснасці, якое суправаджаецца ўнутраным адчуваннем відавочнага і заснаванае на папярэдніх ведах і вопыце.

Адно з найбольш старажытных сведчанняў інтуіцыі – гэта так званы дэман Сакрата. Платон у сваіх «Дыялогах» паведамляе аб гэтым феномене са словаў Сакрата: «Пачынаючы з дзяцінства суправаджае мяне па боскаму вызначэнню нешта дэманічнае. Гэта нейкі голас, які, калі ён з'яўляецца, заўжды дае мне знак утрымацца ад таго, што я хачу зрабіць, але ніколі ні да чаго мяне не падштурхоўвае». Французскі пісьменнік Жорж Блон у кнізе «Вялікі час акіянаў», апісваючы жыццё французскага карсара Рэне Труэна дэ Гея, прыводзіць цытату з ягоных мемуараў: «Пакідаю філосафам тлумачыць вытокі і сутнасць унутранага голасу, які часта прарочыў мне ўдачу ці няўдачу. Гэты ціхі ўпарты голас не аднойчы паведамляў мне дзень і абставіны падзеяў, якія павінны былі адбыцца».

Які механізм узнікнення інтуітыўных здагадак? І чаму адны людзі надзеленыя інтуіцыяй, а іншыя яе цалкам пазбаўлены? У гісторыі навукі было нямала выпадкаў, калі знакамітыя і значныя адкрыцці вучоныя рабілі быццам бы выпадкова – «раптам». Самы вядомы прыклад – Мендзялееў і яго перыядычная табліца хімічных элементаў. Хіміку Фрыдрыху Кекуле знайсці цыклічную формулу бензолу дапамагло відовішча змяі, якая звівалася ў клубок. Наогул, людзі навукі часцей надзелены інтуіцыяй. Знакаміты фізік А.Майкельсан лічыў, што «фізік павінен даваць сваёй інтуіцыі, бо яна заснаваная на яго вопыце эксперыментальнай работы ў лабараторыі».

Безумоўна, лепш мець інтуіцыю, чым не мець. Людзі, надзеленыя вялікім інтуітыўным патэнцыялам, радзей атрымоўваюць харчовае атручанне ці траўмы на вытворчасці. Мностыву добрая інтуіцыя (можна назваць гэта прадбачаннем) выратоўвала жыццё. Вядомы амерыканскі сацыёлаг Джэймс Д.Стаўтан апублікаваў цікавыя вынікі даследавання болей як 200 чыгуначных крушэнняў (пачынаючы з 1900 году) і болей 50 авіяцыйных катастрофаў (з 1925 году). Ён увёў усе даныя ў камп'ютэр, каб вызначыць суадносіны трох фактараў: колькасці ўцягнутых у катастрофу людзей, колькасці ахвяраў, ёмістасці транспартнага сродку. А для чысціні эксперымента падлічыў колькасць пасажыраў на аналагічных па класу самалётах і цягніках, якія не трапілі ў катастрофу на тых жа самых трасах. Аказалася, што ўва ўсіх трагічных выпадках транспарт быў запоўнены ў сярэднім на 61 працэнт, а на рэйсах, што прайшлі нармальна, – на 76 працэнтаў ад поўнага аб'ёму. Розніца ў 15 працэнтаў – неблагі паказчык на карысць існавання інтуіцыі.

Ці можна развіць інтуіцыю, навучыць людзей даверу да сваіх прадчуванняў, хоць бы не для важкіх навуковых ці творчых адкрыццяў, а толькі дзеля захавання здароўя ці жыцця? Амерыканская спецыялістка па развіццю інтуіцыі Марша Эмеры сцвярджае, што гэта магчыма. Эмеры распрацавала праграму развіцця інтуіцыі. Першае, з чаго яна лічыць неабходным пачаць вызначэнне здольнасці да інтуіцыі, – гэта ўменне не спазняцца на сустрэчу, працу, да доктара ці на важныя спатканні. Людзі з развітай інтуіцыяй заўжды адчуваюць, колькі часу адыме ад іх дарога.

Апроч спецыялізаваных методыкаў развіцця прадчування існуюць і простыя, якімі можа скарыстацца кожны.

**1.** Давярайце сваім пачуццям, калі адчуваеце, што нешта ідзе не так як трэба. Адмаўляйцеся ехаць кудысьці, есці нешта, нават размаўляць аб нечым, калі вашыя пачуцці падказваюць вам, што рабіць гэта не варта.

**2.** Звяртайце ўвагу на ўласныя памылковыя дзеянні. Калі вы ўвесь час упускаеце якія-небудзь рэчы, разліваеце гарбату, каву, а вам неўзабаве трэба некуды ехаць, то, магчыма, ваша інтуіцыя падказвае вам аб існаванні схаванай пагрозы.

**3.** Прыглядайцеся да малюнкаў і надпісаў, якія вы робіце несвядома, калі размаўляеце па тэлефоне, ці на запацелым шкле, люстэрку і да т. п. Калі на іх шмат вострых вуглоў – гэта можа быць папярэджаннем аб небяспецы.

Псіхолагі сцвярджаюць, што ў жанчын інтуіцыя развітая лепш, чым у мужчын, бо яны звычайна спадзяюцца на свае пачуцці, а не на логіку.

Інтуіцыя – абсалютна рэальнае пачуццё, якое можна развіць, як развіваюць памяць, зрок або слых.

**Вадзім САМАКАТАЎ**

Знакамітасці



**Актрыса Сафі Ларэн і мадэльер Джорджыо Армані**



***Рэдакцыя «Новага Часу» шчыра ўдзячная ўсім ахвярадаўцам, журналістам, аўтарам, якія паспрыялі выпуску першага нумара газеты***

Галоўны рэдактар
**Алена АНІСІМ**

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 23 сакавіка 2002 г.
Адрас:220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
E-mail: tbm@lingvo.minsk.by

Рэдактар нумару **Канстанцін Тарасаў**
Камп'ютэрная вёрстка **Андрэй Дзегцяроў**
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў
Пры перадруку ці выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не рэдагуе і не вяртае, не рэцэнзуе мастацкія творы, не мае магчымасці ліставацца з чытачамі.
Чытацкая пошта публікуецца выбарачна паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
г. Мінск, пр. Францішка Скарыны, 92. Замова № 138.
Падпісана да друку 27.08.2002 (12:00).
Наклад пілотнага нумару 1 000 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе:
Мінск, вул. Румянцава, 13